Адна зямля
Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Ашмяны
Маладзечна
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

21 сакавіка 2014 года №12 (986)



**Мікабактэрыя туберкулёзу – амаль у кожным беларусе**
Хто аберагае ад найстрашнейшай хваробы і ў чым яе асаблівае каварства?
старонка 21

**Што рабіць з разбітым градуснікам**
Улады пакуль не вырашылі пытанне па ўтылізацыі градуснікаў і люмінесцэнтных лямпаў
старонка 3

**Разводзяць на вадзе па-новаму**
с. 3

**Вілейка: вынеслі прысуд па забойстве з падпалам**
с. 4

**Хто з будучых кандыдатаў зарабіў найбольш?**
с. 20


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Свініна і ялавічына зноў падаражэюць

У Беларусі на 5% павысілі адпускныя цэны на мяса. Адпаведнае рашэнне зацвердзілі пастановай Міністэрства эканомікі ад 11 сакавіка. Лімітная максімальная адпускная цана на ялавічыну патушную складзе 33 279 рублёў за кг, на свініну патушную першай і другой катэгорыі – 31 920 рублёў за кг, свініну трэцяй катэгорыі – 29 814 рублёў за кг.

### Змяніўся старшыня

**ВІЛЕЙКА.** Старшынёй Вілейскага райвыканкама будзе **Віктар Кот**. На гэта даў згоду кіраўнік краіны 17 сакавіка падчас разгляду кадравых пытанняў. На гэтай пасадзе ён замяніў **Яўгена Сінілу**.

### Назначылі дырэктара АЭС

**АСТРАВЕЦ.** Аляксандр Лукашэнка 17 сакавіка даў згоду на прызначэнне Міхаіла Філімонава гендырэктарам Астравецкай АЭС.

**Аддзел інфармацыі.**



# Футбола ў горадзе больш не будзе?

**МАЛАДЗЕЧНА. Футбольны клуб "Маладзечна-2013" у другую лігу чэмпіянату краіны сезона 2014 года заяўляцца не будзе.**

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" распавёў дырэктар клуба **Аляксандр Любанец**.

– У Маладзечне ёсць хакей. Мясцовым уладам не да футбола. Цяпер, звяртаючыся да тых, хто можа дапамагчы грашыма, я чую толькі адзін адказ: прабачце, але ў нас хакей. І гэта нягледзячы на тое, што ўступны ўнёсак сёлета знізілі ад 77 да 40 мільёнаў рублёў. Мы казалі ў канцы сезона, што калі сітуацыя не выправіцца, выжываць мы не будзем. Я не бачу ў гэтым сэнсу.

**– Хто прымаў канчатковае рашэнне аб тым, што заяўкі не будзе?**

– Прымаў я. Дзяніс (Дзяніс Мятліцкі – галоўны трэнер ФК "Маладзечна-2013" – рэд.) сказаў бы: "Саша, трэба заяўляцца". А куды заяўляцца? Як вырашаць пытанні з фінансаваннем, з харчаваннем, з заробкамі футбалістам? Увесь мінулы сезон мы жылі ад выезду да выезду, кожны раз думаючы, дзе на гэты раз узяць грошы. Бывала, што і свае закладвалі, але гэта не справа, не развіццё каманды. Выйсце з такой сітуацыі я бачу толькі адно: або дастукацца да мясцовай улады, або знайсці фаната-алігарха, які штомесяц будзе ўкладаць у развіццё каманды свае 50 мільёнаў. І тое, і другое, як вы разумееце, фантастыка.




Фота Наталлі ТУР.

**Ці ведалі заўзятары на апошняй гульні сезона 2013 года, што развітваюцца з камандай назаўжды?**

### "Мужыкі слабыя і ў футбол гуляць не здольныя"

Мы паспрабавалі атрымаць адказ на пытанне, што ж будзе з маладзечанскім футболам, у загадчыка сектара спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандра Кавалёва**.

– Камандзе "Маладзечна-2013" мы нічым не дапаможам. Існуе 191 указ, згодна з якім, выканкам можа аплаціць 40% ад першапачатковай сумы. Наколькі я ведаю, гэтай сумы ў каманды няма. Калі будзе – тады будзе і размова. Канчатковае рашэнне па ўдзеле ў другой лізе трэба прыняць да 24 сакавіка, таму ёсць яшчэ час.

**– А вам не шкада, што каманды з Маладзечна не будзе на рэспубліканскіх спаборніцтвах?**

– Мне? Не, не шкада. Нашто нам тая рэспубліка? У нас ёсць выдатная каманда ДЮСШ №4, якая выступае на абласных спаборніцтвах. У мінулым годзе мы занялі трэцяе месца, у гэтым ёсць усе шанцы стаць першымі. Мы выхоўваем дзяцей, каб потым перадаць іх у іншыя каманды. Галоўнае, каб прадстаўнікі Маладзечна ўваходзілі ў зборную краіны. Мы так працуем, так і будзем працаваць.

Футбол – гэта перш за ўсё відовішчны від спорту для заўзятараў. А вынікі? Дзе вынікі? Калі мужыкі слабыя і не здольныя гуляць, нашто ўкладваць у такі спорт грошы? Сказалі ж, што трэба развіваць медальныя віды спорту. У нашым горадзе жаночая зборная па футболе ўдзельнічае ў чэмпіянаце рэспублікі. Гэтага дастаткова.

### "Трэба фанатам самім адстойваць каманду"

**Аляксандр Гармаза**, трэнер дзіцячай спартыўнай школы, выказаў сваё меркаванне наконт таго, што каманды з Маладзечна больш не будзе ў чэмпіянаце краіны.

– Першапачаткова было зразумела, што каманда Мятліцкага і Любанца – гэта часовая з'ява ў маладзечанскім футболе. Нельга ўзяць і з нічога зрабіць каманду. Тым больш, што ў нас ёсць выдатная каманда, у якую ўваходзяць нашы выхаванцы, маладзечанцы.

**– Ці азначае гэта, што каманда ДЮСШ можа заявіцца ў другую лігу?**

– Зразумейце мяне, вы першая, хто сказаў мне такую навіну. І я не магу з ходу адказаць на такое пытанне. Тым больш, што я такія пытанні не вырашаю. Я проста раблю сваю справу. І раблю яе добра. Гэта вам не прыйсці прыгожа апранутаму на "круглы стол" і вырашаць пытанні аб магчымым удзеле ў вышэйшай лізе праз пару гадоў.

**– Як вы ўвогуле ацэньваеце перспектыву развіцця футбола ў нашым горадзе?**

– Па-першае, трэба сказаць "вялікі дзякуй" мінуламу кіраўніцтву горада за тое, што штучнае пакрыццё зрабілі на стадыёне, дзе футбола няма. Я гавару пра Чысць. А ў Маладзечне, дзе працуе спартыўная школа, і не адна, такога поля няма.

Цяпер пачалі развіваць хакей. Не ведаю, што з гэтага будзе. Застаецца толькі самім фанатам адстойваць права ўдзелу каманды ў спаборніцтвах вышэйшага ўзроўню.

**Наталля ТУР.**

● КОНКУРСЫ

# Каманда “Люкс-аўта” перамагла ў аўташоу

**ВІЛЕЙКА. У Вілейскім дзяржаўным прафесійна-тэхнічным каледжы 14 сакавіка адбыўся конкурс прафесійнага майстэрства сярод выпускнікоў “Шык-Аўта-Шоу-2014”.**

– Гэта адносна малады конкурс: праходзіць ён у другі раз, – кажа педагог-арганізатар каледжа **Святлана Мацукевіч**. – У першую чаргу, гэта прафарыентацыйнае мерапрыемства. Яно дае магчымасць нашым дзецям прадэманстраваць усе ўменні і навыкі, якімі яны авалодалі ў каледжы. І разам з тым школьнікі могуць пабачыць, што нашы выпускнікі – майстры сваёй справы і здолеюць добра ўладкавацца на рынку працы.

Апроч балельшчыкаў з каледжа, на мерапрыемства запрасілі гімназістаў дзявятых класаў вілейскай гімназіі №2, вучняў Куранецкай сярэдняй школы.

У конкурсе прынялі ўдзел дзве каманды: “Дальнабой” і “Люкс-аўта”. У складзе кожнай – па тры ўдзельнікі. Адразу хлопцы паказалі сябе ў конкурсе “Візітная картка камандаў”.

На другім этапе конкурсу навучэнцы праверылі веды правілаў дарожнага руху: мусілі адказаць на 10 пытанняў. І не ў цішы кабінетаў, а ў досыць экстрэмальных умовах: пад гучную музыку, эмацыйныя каментары вядучага і пільныя вочы гледачоў. Але ўсе ўдзельнікі справіліся выдатна.

Увогуле ўсё ў шоу было прывязана да аўтамабільнай тэматыкі: і песні гучалі пра вадзіцеляў, і ў падводках да конкурсаў спрэс былі аўтамабільныя тэрміны: “задача простая як каробка перадач”.

Далей удзельнікаў чакала практычнае выпрабаванне: яны разам з балельшчыкамі адправіліся на аўтадром.

– А што: і я хацела б пакіраваць машынай, у GTA* я вунь як езджу, – летуценна казала адна з глядачак.

На аўтадроме навучэнцы паказалі свае ўменні ў кіраванні грузавога аўтамабіля: трэба было пераадолець паласу перашкод.

– Сёлета праграму гэтага этапу крыху змянілі. Апроч навучэнцаў, будуць удзельнічаць і майстры. Яны праедуць апошні круг, – патлумачыў намеснік дырэктара па вучэбна-вытворчай рабоце **Аляксандр Тышчук**.

Па вяртанні ў залу вынікі конкурсу падвёў дырэктар каледжа старшыня журы **Ігар Кіцікаў**. З невялікім адрывам перамагла каманда “Люкс-аўта”. У яе складзе – **Васіль Белы, Максім Гапонаў, Сяргей Глебец.**

**– Што самае цяжкае было?** – пытаю ў іх.

– Праверка правілаў дарожнага руху, – як адзін адказваюць хлопцы.

**– А на аўтадроме як?**

– Нескладана: там усе адточана да дробязяў. Праз тыдзень у нас здача на правы. Дык гэты конкурс для нас як трэніроўка быў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка “РГ”.** GTA – камп’ютарная гульня.




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Пераможца конкурсу – каманда “Люкс-аўта”: Васіль Белы, Максім Гапонаў, Сяргей Глебец.**

● ТРАДЫЦЫІ

# Абрады і святы дэманстравалі на Вілейшчыне

**ВІЛЕЙКА. На Вілейшчыне 7 сакавіка завяршыўся раённы агляд-конкурс аматарскай мастацкай творчасці “Святы. Звычаі. Абрады… Запрашаем – будзем рады!”.**

Прынялі ўдзел 20 клубных устаноў Вілейскага раёна.

На працягу двух тыдняў на сцэнах клубных устаноў па чарзе дэманстравалі выступленні, у якіх удзельнікі павінны былі па-мастацку раскрыць традыцыйныя абрадавыя дзеі сваёй мясцовасці, уключыць у іх аднаўленыя ці бытуючыя абрады, песні каляндарнага, сямейна-родавага цыклаў, народныя танцы, карагоды, гульні, казкі, паданні ды іншае. Пабачыць усё гэта маглі іх не толькі мясцовых жыхары, але і метадысты раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы, дырэктар краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

– У кожным з паказаных выступленняў было нешта цікавае. Адны адрозніваліся мясцовым каларытам і бліскучым гумарам, другія – адметнымі абрадавымі песнямі і танцамі, у іншых наладзілі гульні з гледачамі і гэтак далей, – расказала дырэктар раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы **Таццяна Слуцкая**. – У большасці на сцэну выходзіла шмат людзей: і дарослых, і дзяцей.

Лепшымі названыя выступленні пяці ўстаноў: Людвіноўскага сельскага Дома культуры (пастаноўка “Забабоны”), Нарачанскага СДК (“А ў нас сёння хрэсьбінкі”), Любанскага цэнтра культуры і вольнага часу (“Вясковыя пасядзелкі”), Селішчанскага СДК (“Калядныя перазовы”) і Ільянскага сельскага Дома культуры. Тут паказалі спектакль “Вясковае кола жыцця”. Яго пабудавалі на песнях і прымаўках, запісаных ад жыхароў вёскі Бязводнае – **Сафіі Андрушкевіч і Міхаіла Андруковіча**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана раённым метадычным цэнтрам народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы.

**На сцэне – прадстаўнікі Нарачанскага СДК.**

МАХЛЯРСТВА

# Разводзяць на вадзе па-новаму і ў Смаргоні

**СМАРГОНЬ. Махляры тэлефануюць на мабільны, на дамашні, запрашаюць выйсці паразмаўляць у пад'езд, арганізоўваюць сходы. Усё дзеля таго, каб вы набылі фільтр больш чым за тры мільёны рублёў.**

– Днём званок у дзверы, – піша карыстальнік смаргонскага форуму. – "Праз пяць хвілін сход жыхароў па пытанні водазабеспячэння". Пайшла жонка. Вярнулася, сказала, што распавядалі нешта пра сур'ёзныя праблемы з якасцю пітной вады ў Смаргоні.

Потым у кватэру зайшоў малады чалавек і прапанаваў "рашэнне" праблемы дрэннай якасці пітной вады ў нашым горадзе. А менавіта: устанавіць індывідуальны фільтр у кватэры. І што гэта ўзгоднена з водаканалам, бо вельмі дрэнную цэнтральную трубу горада замяніць не змогуць. Але ўстаноўка фільтра за нашы грошы. Нам яшчэ "пашанцавала": мы трапляем у льготную катэгорыю, і таму кошт будзе не тры з нечым мільёны рублёў, а ўсяго два з нечым.

На заўвагу, што пытанне патрабуе ўдакладнення і часу на прыняцце рашэння, пачулі, што тады згубім скідку, якіх усяго дзве на пад'езд. Жывём мы ў Каранях, мяркуем, што "апрацоўваюць" увесь горад. Дарэчы, патэлефанаваўшы ў наш водаканал, вядома, пачулі, што з якасцю вады ўсё ў парадку і дамоўленасцяў аб усталяванні фільтраў ні з кім няма.


Фота water-filter.by.

Вада з кранаў смаргонцаў цячэ добрай якасці.

### Каментуе водаканал

Вада з кранаў смаргонцаў цячэ добрай якасці, абвяргае распаведы прадпрымальных "прадаўцоў" намеснік дырэктара смаргонскага водаканала **Аляксандр Юрэвіч**:

– Яе можна піць проста з-пад крана. Гэта артэзіянская вада, якую мы здабываем з падземнай крыніцы. Адзінае, у ёй перавышаны ўзровень жалеза. Аднак перад тым, як яна трапляе ў дамы смаргонцаў, вада праходзіць абезжалезванне. Да таго ж, увесь час працуюць лабараторыі, якія правяраюць якасць вады.

Аляксандр Юрэвіч чуў пра дзейнасць махляроў. Дзесьці месяц таму яму тэлефанавалі і пыталіся, ці сапраўды заключаная дамоўленасць з гэтай фірмай па продажы фільтраў. Аднак ніякіх дамоўленасцяў не было.

– Калі б з намі хтосьці штосьці ўзгадняў, то прадстаўнікі ад нас і ЖРЭС удзельнічалі б у сустрэчах з жыхарамі, – заўважыў намеснік начальніка водаканала.

### Раней на хітрыкі пападаліся маладзечанцы

"Прадаўцы" прыходзілі ў дамы і праводзілі эксперымент. Набіралі ваду з-пад крана, дадавалі рэактывы, якія рэагуюць з солямі натрыю, калію, магнію. У выніку хімічнай рэакцыі вада мяняла колер.

Загадчык аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Міхаіл Міхалевіч** назваў гэта не інакш, як "хімічным фокусам". Аднак ад яго пацярпеў не адзін чалавек.

А дырэктар прадпрыемства "Маладзечнаводаканал" **Станіслаў Бакун** дадаў, што такі фільтр у краме каштуе 1,3 мільёна рублёў.

Гэта ж фірма ставіць на яго кошт у 4,4 мільёна рублёў і робіць скідку для пенсіянераў і інвалідаў у 50 працэнтаў.

**Настасся РОЎДА.**

ЭКАЛОГІЯ

# Што рабіць з разбітым градуснікам

**МАЛАДЗЕЧНА. Пакуль Маладзечанскі райвыканкам не прыняў рашэнне, хто будзе адказваць за збор градуснікаў і люмінесцэнтных лямпаў. А раз рашэнне не прынялі, то і несці іх няма куды.**

У "Камунальніку" распавялі, што пытанне ўжо пастаўленае. Чакаюць прыняцця рашэння.

Пакуль што непрыдатныя градуснікі і люмінесцэнтныя лямпы жыхары павінны захоўваць у сябе, бо ў звычайную сметніцу выкідаць іх нельга.

Калі ж градуснік разбіўся, то па дапамогу варта звяртацца ў МНС.

Ніжэй прыведзеныя парады ад службы "101".

### Што рабіць, калі вы разбілі градуснік

1. Выведзіце з памяшкання ўсіх людзей, у першую чаргу дзяцей, інвалідаў, людзей сталага ўзросту.

2. Адкрыйце насцеж усе вокны ў памяшканні.

3. Максімальна ізалюйце ад людзей забруджанае памяшканне, шчыльна зачыніце ўсе дзверы.

4. Засцеражыце органы дыхання хаця б вільготнай марлевай павязкай.

5. Неадкладна пачынайце збіраць ртуць: збірайце спрынцоўкай вялікія шарыкі і неадкладна скідайце іх у шкляны слоік з растворам "марганцоўкі" (2 грамы на 1 літр вады). Больш дробныя шарыкі збірайце шчоткай на паперу і таксама кідайце ў слоік. Слоік шчыльна зачыніце накрыўкай. Выкарыстанне пыласоса для збірання ртуці забараняецца.

6. Вымыйце забруджаныя месцы мыльна-содавым растворам – 400 грамаў мыла і 500 грамаў кальцынаванай соды (харчовая сода) на 10 літраў вады або растворам "марганцоўкі" – 20 грамаў на 10 літраў вады.

7. Зачыніце памяшканне пасля апрацоўкі так, каб яно не злучалася з іншымі, і праветрывайце цягам трох сутак.

8. Падтрымлівайце ў памяшканні, па магчымасці, тэмпературу не ніжэй за 18-20 градусаў.

9. Вычысціце і прамыйце моцным, амаль чорным растворам марганцоўкі, падэшвы абутку, калі вы наступілі на ртуць.

### Калі разлілося больш ртуці, чым у градусніку

1. Захоўвайце спакой, пазбягайце панікі.

2. Выведзіце з памяшкання ўсіх людзей, дапамажыце дзецям, інвалідам і людзям сталага ўзросту.

3. Засцеражыце органы дыхання хаця б вільготнай марлевай павязкай.

4. Адчыніце насцеж усе вокны.

5. Ізалюйце максімальна забруджанае памяшканне, шчыльна зачыніце ўсе дзверы.

6. Хутка збярыце дакументы, каштоўнасці, лекі, прадукты і іншыя неабходныя рэчы.

7 . Выключыце электрычнасць і газ, загасіце агонь у печках перад выхадам з дому.

Барацьба з вялікай колькасцю ртуці і яе парамі вельмі складаная. Хімікі называюць яе дэмеркурызацыяй.

Яе праводзяць двума спосабамі:

– хіміка-механічным – механічны збор шарыкаў ртуці з далейшай апрацоўкай забруджанай паверхні хімічнымі рэагентамі (пасля такога спосабу апрацоўкі памяшканне патрабуе ўзмоцненага праветрывання);

– механічным – механічны збор шарыкаў ртуці з паверхні з наступнай заменай падлогі, тынкоўкі або капітальным рамонтам будынка (гэты спосаб можа прымяняцца разам з хіміка-механічным).

**Настасся РОЎДА.**

| Курсы валют НБ РБ | 13.03 | 20.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9810 | **9830** |
| Еўра | 13590 | **13690** |
| Злоты | 3214.71 | **3256.42** |
| Літ | 3936.12 | **3963.23** |
| Расійскі рубель | 269 | **271.5** |
| Грыўня | 1054.84 | **974.23** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9810/9870 | **9820/9880** |
| Еўра | 13580/13700 | **13650/13750** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 12.03 | 19.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 121900 | **116000** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 48900 | **48500** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23800 | **25800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 69000 | **69000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28500 | **29500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 28000 | **32000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9500 | **9500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13500 | **13000** |
| **Алей** | 17000 | **14000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7700 | **7700** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 10000 | **10000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 7500 | **7500** |
| **Капуста**, 1 кг | 5800 | **5500** |
| **Морква**, 1 кг | 6500 | **6000** |
| **Буракі**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 21000 | **20500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15000 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 18500 | **18500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 23500 | **22500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 28000 | **24500** |
| **Перац**, 1 кг | 39900 | **35500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 19000 | **43000** |
| **Бананы**, 1 кг | 13800 | **16900** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9500 | **9500** |
| **Грушы**, 1 кг (Канферэнцыя) | 19500 | **17500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13500 | **13500** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 42000 | **42000** |
| **Бульба**, вядро 5 л | 20000 | **20000** |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | **55000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

КРЫМІНАЛ

# Вынеслі прысуд па забойстве з падпалам

## Злачынства адбылося год таму

**ВІЛЕЙКА. 17 сакавіка Мінскі абласны суд па выніках судовага следства вынес абвінаваўчы прысуд беспрацоўным жыхарам Вілейкі – мужу і жонцы Сяргею і Ганне К. (імёны зменены). Прысуд можа ўступіць у законную сілу праз 10 дзён.**

Забойства здарылася летась 12 сакавіка ў двары дома №15 па вуліцы Савецкай у Вілейцы.

Сяргей К., нецвярозы, ноччу ў двары дома №15 па вуліцы Савецкай, пасварыўшыся з Аляксандрам В., наўмысна многа раз ударыў яго нажом. Апошні памёр на месцы злачынства.

**Адразу ж пасля забойства Сяргей К. са сваёй жонкай Ганнай, таксама нецвярозай, аднеслі цела ахвяры ў дом і паклалі яго ў зале.**


Фота vilejka.info.

Летась 17 сакавіка на вуліцы Савецкай у Вілейцы адбылося забойства, падпал і крадзеж.

Пасля гэтага, адчуўшы страх перад адказнасцю за зробленае, Сяргей К. вырашыў падпаліць дом. Ён накіраваўся да гаража, каб раздабыць лёгкаўзгаральнай вадкасці.

У гэты час Ганна К., якая была ў доме, скрала маёмасць сям'і нябожчыка гаспадара.

Трэба разумець, што чалавек, які пакутуе ад наркатычнай залежнасці, наўрад ці змог бы ўтрымацца ад крадзяжу грошай і іншых рэчаў. Цынічнасць гэтага ўчынку і ў тым, што жанчына крала, нягледзячы на тое, што ў доме яшчэ не астыла цела гаспадара, забітага яе мужам.

Сяргей К., як толькі адшукаў у гаражы ўсё неабходнае, вярнуўся і падпаліў дом, тым самым паспрабаваўшы схаваць сляды свайго жорсткага злачынства. У той момант ён вельмі спяшаўся і не разумеў, што гэта рашэнне з'яўляецца памылковым і толькі пагаршае яго адказнасць. Ужо вельмі шмат слядоў ён пакінуў.

Муж і жонка К. сыходзілі з ахопленага агнём дома паасобку. Пра што яны думалі ў той момант – уявіць складана.

Ужо раніцай яны былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі, пачалося следства і, як вынік, – лава падсудных.

### Асудзілі да 20 гадоў

Сяргей К. асуджаны да 20 год пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ва ўмовах строгага рэжыму.

Яго жонка Ганна К. за здзяйсненне крадзяжу ў буйным памеры асуджаная да 4 год пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму.

Акрамя таго, суд задаволіў іскавыя патрабаванні пацярпелага боку.

На жаль, гэта трагедыя, якая выклікала гібель маладога хлопца і пакінула глыбокі шрам у душах яго родных і блізкіх, з'яўляецца далёка не першай і не апошняй.

**Уладзімір НЕПАКУПНЫ, старшы памочнік пракурора Мінскай вобласці.**

БРАКАНЬЕРСТВА

# На паляванні пераблытаў бабра з гуссю

**МЯДЗЕЛ. На трэці дзень пасля адкрыцця палявання на пералётных птушак жыхар Мядзельскага раёна пры паляванні на гуся якімсьці чынам пераблытаў птушку з бабром.**

Пра гэта распавёў начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Валеры Кляноўскі**.

Мужчыну затрымалі ў паляўнічых угоддзях Крывіцкага лясніцтва. У парушальніка канфіскавалі паляўнічую стрэльбу замежнай вытворчасці і 23 патроны да яе, а таксама тушу бабра.

Парушальнік кампенсаваў шкоду навакольнаму асяроддзю і кошт здабытай жывёлы: гэта больш за 10 мільёнаў рублёў.

Узбуджаная крымінальная справа. За гэта злачынства прадугледжаны штраф або арышт да шасці месяцаў, або абмежаванне волі да двух год, або пазбаўленне волі на тэрмін да трох год.

**Аддзел інфармацыі.**

КРАДЗЯЖЫ

# Кладаўшчык школы “аб'ядаў” дзяцей

**ВАЛОЖЫН. Крадзеж у Івянецкай сярэдняй школе выявілі 11 сакавіка супрацоўнікі групы па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі падчас правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў.**

– Кладаўшчыка школы затрымалі на месцы злачынства. Агульны кошт канфіскаваных у яго прадуктаў харчавання атрымаўся больш за 300 тысяч рублёў.

Аперацыя не была выпадковай, за кладаўшчыком да гэтага сачылі, – распавёў “Рэгіянальнай газеце” намеснік начальніка Валожынскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Віталь Мінкевіч**.

На мужчыну склалі адміністрацыйны пратакол.

**Наталля ТУР.**

# Заявіў, што абакралі

**ВІЛЕЙКА. У міліцыю звярнуўся 47-гадовы грамадзянін Расіі.**

Ён расказаў, што ў ноч на 4 сакавіка ў яго з пакоя гасцініцы ў Вілейцы знік кашалёк.

Па словах мужчыны, там было каля трох тысяч долараў ЗША, паведаміў начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Мікалай Раманчук**.

Пры аглядзе пакоя кашалёк знайшлі пад матрацам. Аднак калі мужчына пералічыў грошы, то сказаў, што ў кашальку не хапае 970 долараў.

Абставіны здарэння высвятляюцца.

**Аддзел інфармацыі.**

# Скралі каштоўнасці

**ВІЛЕЙКА. У жыхаркі Вілейкі з кватэры ўкралі пярсцёнкі, ланцужкі ды іншыя ювелірныя вырабы.**

Каштуюць яны больш за 10 мільёнаў рублёў. Прапажу жанчына заўважыла 28 лютага. Апошні раз яна бачыла іх два месяцы таму.

Узбуджаная крымінальная справа, паведаміў начальнік Вілейскага райаддзела СК **Мікалай Раманчук**.

**Аддзел інфармацыі.**

З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

# Чарговая аварыя каля “Бярозкі”: колькі гэта будзе працягвацца?

**МАЛАДЗЕЧНА. Піша чытач “РГ” Аляксандр Якубоўскі.**

13 сакавіка каля 20:30 на перакрыжаванні побач з “Бярозкай” здарылася ДТЗ.

Іншамарка, якая спускалася з пуцеправода на вялікай хуткасці, не ўпісалася ў паварот у бок вуліцы Прытыцкага і ўрэзалася ў іншамарку, якая рухалася з боку "крывой" крамы.

Хто вінаваты, ці быў кіроўца п'яны – высветліць ДАІ.

**Як паведамілі “РГ” у ДАІ, вінаватая ў аварыі жанчына, якая паварочвала налева і не саступіла.**

Але вось пытанне – колькі гэта будзе працягвацца? Гэта далёка не першае ДТЗ на гэтым скрыжаванні.

Чаму мясцовыя ўлады не прымаюць ніякіх мер? Няўжо няма сродкаў на тое, каб паставіць знакі, якія б абмяжоўвалі хуткасць пры пад'ездзе да скрыжавання да 30 кіламетраў у гадзіну, і дапоўніць святлафоры стрэлкамі?

З надыходам вясны зноў актывізаваліся байкеры, якія ганяюць на матацыкле з хуткасцю ўтрая хутчэйшай, чым дазволена.

**Аляксандр ЯКУБОЎСКІ, чытач “РГ”.**

ЗДАРЭННІ

# Вызвалілі 4-гадовую дзяўчынку

**МАЛАДЗЕЧНА. Нага дзяўчынкі аказалася ў радыятарнай рашотцы.**

Вечарам 13 сакавіка ў службу МНС ад жыхаркі Маладзечна паступіла паведамленне аб тым, што яе дачка засунула нагу ў рашотку батарэі ацяплення і не можа дастаць.

Чатырохгадовая дзяўчынка гуляла і неяк левая нага аказалася ў радыятарнай рашотцы.

Выратавальнікі падпілавалі край батарэі і без прымянення гідраўлічнага інструменту вызвалілі нагу дзіцяці.

Работнікі “хуткай дапамогі” агледзелі нагу дзяўчынкі, шпіталізацыя не спатрэбілася.

**Паводле МНС.**





# Шэнгенская віза: што кажуць эксперты

**Студзеньскае пагадненне аб спрошчаным візавым рэжыме паміж Беларуссю і ЕС павінна зменшыць кошт візы да 35 еўра. Аднак наколькі танней стане віза ў рэальнасці?**

Шмат беларусаў фактычна не адчуюць гэту розніцу ў кошце. Для іх нашмат даражэй за цяперашні візавы збор паслугі пасрэднікаў, да якіх яны звяртаюцца. Гэтыя асобы, якія могуць быць як легальнымі юрыдычнымі, так і незарэгістраванымі фізічнымі, тым ці іншым чынам дапамагаюць з атрыманнем шэнгенскай візы.

Даследаваць гэтае пытанне ўзяліся **Андрэй Елісееў** (Belarusian Institute for Strategic Studies) і незалежны эксперт **Юлія Мурыгіна**.

## У межах даследавання

Правялі:

1) **20 тэлефонных інтэрв'ю** з супрацоўнікамі кампаній і індывідуальнымі прадпрымальнікамі, якія займаюцца візавым пасрэдніцтвам.

2) **50 анкет**, што запоўнілі візавыя заяўнікі каля консульства Польшчы ў Мінску, якія звярталіся да пасрэднікаў па дапамогу ў атрыманні візы.

3) **150 электронных анкет** беларускіх візавых заяўнікаў, якія звярталіся ў консульствы розных краін Шэнгену.

4) інтэрв'ю з IT-спецыялістам па пытаннях, звязаных з электроннай рэгістрацыяй для падачы дакументаў у консульствы краін ЕС.

## Не атрымалася зарэгістравацца – чакай месяц

Дзясяткі тысяч беларусаў мусяць плаціць не толькі візавы збор, але і за паслугі візавых пасрэднікаў. Падчас атрымання візы ў польскім і літоўскім консульствах да іх звяртаюцца дзесьці 20-30% ад іх агульнай колькасці.

Такі ажыятаж выклікаюць складанасці з электроннай рэгістрацыяй. Больш за 70% апытаных назвалі гэтую прычыну адзінай. Яшчэ для часткі праблема ў велізарных чэргах на падачу дакументаў у консульства і неабходнасці тлумачыць прычыну жадання атрымаць візу.

Маладзечанец **Сяргей Чабай** неаднойчы карыстаўся электроннай рэгістрацыяй. Аднак зарэгістравацца з першага разу атрымоўвалася не заўсёды. Тады даводзілася чакаць яшчэ колькі тыдняў, каб у чарговы раз "выпрабаваць лёс", бо рэгістрацыю праводзяць толькі раз на месяц.

– Як толькі пачынаецца рэгістрацыя, сайт жудасна вісне. Паўтары-дзве гадзіны можа грузіцца адна старонка. Даводзіцца проста сядзець і ўвесь час абнаўляць сайт. Прытым паралельна на розных браўзерах. Пацвердзіўшы, што ты не робат, абраўшы патрэбны горад і пазначыўшы, навошта віза, трэба паспець "схапіць" дату, калі можна будзе падаць дакументы. Іх вельмі хутка разбіраюць. Калі паспеў і загрузілася анкета – ты шчаслівчык. Яе трэба за 20 хвілін запоўніць, захаваць і раздрукаваць.

Але ўвесь час ёсць рызыка, што ў любую секунду цябе могуць проста "выкінуць" з сайта і трэба будзе рабіць усё па новай. У выніку рэгістрацыя займае ад двух да шасці гадзін. І гэта ў лепшым выпадку.


Фота кампаніі "Без візы".

Андрэй Елісееў, прадстаўнік BISS, які праводзіў даследаванне па візах.


Фота кампаніі "Без візы".

Юлія Мурыгіна, незалежны эксперт, удзельнік даследавання па візах.

**По дадзеных апытання, кошт паслуг візавых пасрэднікаў вагаецца ад 50 да 150 еўра, часам нават больш.**

## Пасрэднікі – хто яны?

1. Турыстычныя фірмы, акрэдытаваныя пры консульствах.

2. Працэдурныя пасрэднікі – кампаніі, якія дапамагаюць выключна з запаўненнем візавай анкеты і кансультуюць па неабходных дакументах.

3. Рэгістрацыйныя пасрэднікі, інакш "хакеры", якія прадаюць выключна візавую рэгістрацыю. Тут могуць быць як зарэгістраваныя ІП, так і асобы, якія працуюць нелегальна.

4. Пасрэднікі, якія разам з электроннай рэгістрацыяй даюць фіктыўныя падставы для атрымання візы.

## Паслугі пасрэдніка не павінны перавышаць 30 еўра

Згодна з Візавым кодэксам ЕС, супраца консульства са знешнімі пастаўшчыкамі паслуг можа быць наладжана. Прадстаўніцтва краін Шэнгену ў межах супрацоўніцтва ў краіне знаходжання абменьваюцца інфармацыяй пра выбар знешніх пастаўшчыкоў паслуг і ўстанаўленні пагадненняў з імі.

Разгляд заяў, магчымае інтэрв'ю, рашэнне па заявах і ўнясенне візаў у дакументы мусяць выконвацца выключна супрацоўнікамі консульства.

Адпаведна за знешнім пастаўшчыком можа замацоўвацца астатні комплекс паслуг: магчымасць атрымання агульнай інфармацыі па візавых патрабаваннях і запаўненні заяў, інфармаванне заяўніка аб неабходных суправаджальных дакументах, збор дадзеных і заяў і перадача іх у консульства, збор аплаты, упраўленне назначэннем на прыём у консульства, збор праязных дакументаў.

Згодна з Візавым кодэксам, плата за паслугі візавага пасрэдніка не павінна перавышаць паловы стандартнага візавага збору, гэта значыць не больш за 30 еўра.

Цяпер у Беларусі ўсяго адзін падобны знешні пастаўшчык паслуг – Візавы Цэнтр Іспаніі ў Мінску, які адкрыўся летась у маі. Гэта філіял кампаніі VFS Global – найбуйнейшы ў свеце, які дае магчымасць аказваць знешнія візавыя паслугі.

## Першыя, але гэтага недастаткова

Нягледзячы на тое, што Беларусь лідзіруе па колькасці выдадзеных віз на душу насельніцтва сярод усіх краін (каля 130), дзе існуе візавы рэжым з ЕС, попыт усё роўна перавышае прапанову.

**Па агульнай колькасці выдадзеных віз нас апярэджвае толькі Расія з насельніцтвам больш за 140 мільёнаў чалавек, Украіна, дзе пражывае 45 мільёнаў чалавек, і Кітай з яго 1 мільярдам і 350 тысячамі жыхароў.**

Аднак візу атрымлівае не кожны, хто жадае. Асабліва, калі ўлічыць, што большасць едзе альбо ў Літву, альбо ў Польшчу. На гэтыя консульствы прыходзіцца 2/3 усіх выдадзеных у Беларусі шэнгенскіх віз. Таму ім даводзіцца працаваць на мяжы магчымасцяў, бо польскі бок усё яшчэ не можа дамовіцца з беларускімі ўладамі аб павелічэнні колькасці консульскіх работнікаў у Беларусі.



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

● 27 САКАВІКА – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ТЭАТРА

# Братулька

**МАЛАДЗЕЧНА. Улетку можна назіраць, як у адкрытую фортку залятае матылёк. Ён робіць круг па пакоі, потым накіроўваецца да акна, б'ецца аб шкло, спрабуючы вырвацца на волю...**

Наша памяць – гэта той самы матылёк... Думкі і ўспаміны, якія часам не даюць спакою. Успаміны пра людзей: іх галасы, твары ты ўжо ніколі не пачуеш і не пабачыш...

**Сяргей Валькові**ч не быў першым дырэктарам Мінскага абласнога драматычнага тэатра. Ён быў тым дырэктарам, які амаль 15 гадоў прысвяціў тэатру. У яго не было досведу кіраўніцтва такой установай. Рос малады тэатр, і яго дырэктар набіраўся досведу, унікаючы ў нюансы гаспадарчага ды творчага працэсу. Корпус дырэктараў памятае яго як харызматычнага чалавека, які быў крыніцай жыццялюбства.



Фота з архіва Алега ЧЭЧАНЕВА.

Сяргей Валькові́ч 15 гадоў прысвяціў Мінскаму абласному драмтэатру, дзе ён быў сапраўдным Гаспадаром.

"Братулька" – такім нефармальным словам ён любіў звяртацца да суразмоўцы, усталёўваючы простыя і даверлівыя адносіны. Гэта слова аднойчы трывала ўвайшло ва ўжытак супрацоўнікаў. "Ганаровы братулька" – такую жартаўлівую намінацыю мы прыдумалі для Валькові́ча на вечары, які быў прысвечаны 10-годдзю тэатра. Мы ўручылі яму падарунак – вуду, якую вырабілі бутафоры, прыгаворваючы пры гэтым: "Вось вам прыстасаванне для лоўлі новых ідэй ды таленавітых людзей". Жарт прыйшоўся яму па душы. Бутафорскі падарунак доўгі час стаяў у куце яго кабінета. І ў гэтым была праява павагі ды ўвагі да самой ідэі.

Ён шмат рабіў для акцёраў: выбіваў кватэры, граматы. Ён дараваў тыя ўсплёскі негатыўных эмоцый, праявы незадаволенасці, якія можна назваць выдаткамі прафесіі. Ці ведаеце вы яшчэ каго-небудзь з дырэктараў, хто па некалькі разоў праглядае адны і тыя ж спектаклі – ад пачатку да канца? У яго былі два самыя любімыя — "Камедыя" і "Вечар". Апошні спектакль пастаўлены па яго непасрэднай ініцыятыве. Мы рыхтаваліся і гралі па-асабліваму, ведаючы, што ў гэты вечар дырэктар знаходзіцца ў зале. Пасля спектакля ён абавязкова заходзіў у кожную грымёрную і, расчырванелы ад пачуццяў, што перапаўнялі яго, казаў простыя словы падзякі. Ён не грэбаваў абняць і моцна прыціснуць да сябе мокрага ад поту артыста. Таму што разумеў: акцёр – той падмурак, на якім трымаецца тэатр. А як гарэлі яго ныя вочы, калі ў дакументальным фільме пра трупу, знятым для гарадскога тэлеканала, ён распісваў якасці кожнага артыста, не зважаючы ні на дасягненні, ні на ўзрост! Такое не сыграеш.

Яго кабінет нагадваў музей. Сцены былі абвешаныя афішамі, шматлікімі фотаздымкамі са спектакляў, пра якія ён з асаладай распавядаў сваім гасцям. Увесь рэпертуар пры ім ішоў выключна на беларускай мове. Гэта была тая ўстаноўка, якой Сяргей Барысавіч строга прытрымліваўся. І ён, сапраўдны беларус, ганарыўся тым фактам, што гэты тэатр – трэці, пасля двух Нацыянальных (Купалаўскага і Коласаўскага), які працуе толькі на роднай мове.

Неяк у тэатры разбіралі паперы і знайшлі яго ліст аб фінансавай падтрымцы. Ліст заканчваўся словамі: "...Бо разбягуцца". У гэтым – увесь Валькові́ч. Артыстычная, вынаходлівая натура. Толькі ён мог так напісаць у афіцыйным дакуменце. Каб страпянулася сэрца таго, каму адрасаваны ліст, і рука вывела станоўчую рэзалюцыю. Быў перыяд, калі супрацоўнікі тэатра, не змаўляючыся, прыходзілі пасля выхадного на працу і пачыналі вывучаць распараджэнні ды загады. Ніводную падзею або здарэнне ён не абмінаў увагай. Гэта былі дакументы, напісаныя не казённай мовай. Яны нагадвалі баявыя лісткі, эмацыйныя па змесце зводкі, з развагамі, заўвагамі і просьбамі. Адно распараджэнне было названае прыкладна так: "Аб усталяванні добразычлівых адносін у калектыве". І вынік: пакараць, заахвоціць або паставіць на від.

Першыя людзі горада былі гасцямі на прэм'ерах тэатра. Перш чым адправіць на першы замежны фестываль монаспектакляў, ён павёў мяне ў райвыканкам, каб паведаміць пра гэтую падзею. Праз доўгі час я зразумеў, што для яго гэта была нагода паспрабаваць атрымаць ад горада падтрымку. Ён не пераставаў шукаць сродкі для тэатра, маючы зносіны з прадстаўнікамі розных структур. Сяргей Барысавіч у гэтай справе быў вялікі майстар, абаяльны і настойлівы ў дасягненні мэты.

...Непапраўнае здарылася ў верасні пасля адпачынку. Яго сэрца не вытрымала. Раптоўная смерць. Калектыў адмаўляўся верыць вестцы. Некаторыя перапытвалі: "Што, няўдалы жарт?" Развітанне адбылося на сцэне тэатра, а зала была запоўненая цалкам.

Спектакль, які павінен быў адбыцца ў наступныя дні пасля пахавання – "Паланэз на развітанне", – вырашана было не адмяняць. У фае працяглы час вісеў партрэт у чорнай рамцы. Гады жыцця і сціплая інфармацыя. Пасля чарговага касметычнага рамонту партрэт на сваё месца не вярнулі... Але што такое партрэт? "Рэч і нічога больш", – кажучы словамі аднаго персанажа. Памяць – гэта зусім іншае.

Не ўсё было так гладка, як я апісаў. Былі і свае перакосы. Але засталося галоўнае: "послевкусие". Для Сяргея Барысавіча тэатр быў тым домам, які ён пачаў ствараць практычна з нулявога цыкла. І ў гэтым доме ён быў сапраўдны Гаспадар – няўрымслівы ды нястомны. Такіх людзей мала – неардынарных, якія хваляюцца за сваю справу, да фанатызму адданых і цалкам заглыбленых у яе. Часам хацелася б з ім пагаварыць... Думаю, не адзінокі я ў сваім жаданні. Пагаварыць з пазіцыі сённяшняга часу і гэтага ўзросту. Не, не пра тэатр, а проста аб жыцці. За чарачкай яго любімага напою, які ён рыхтаваў выключна для сябе і частаваў толькі сваіх сяброў. Празрыстага, як сляза...

**Алег ЧЭЧАНЕЎ,**
**акцёр і рэжысёр МАДТ,**
**газета "Культура".**

# "Аблом OFF". Валяцца на канапе – гэта добра

**МАЛАДЗЕЧНА. Прэм'ера новага спектакля ў пастаноўцы Андрыяна Барткевіча "Аблом OFF" прызначаная на 5 красавіка.**



Фота VK.com.

**Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля "Аблом OFF" Андрыян Барткевіч.**

– "Аблом OFF" – гэта гісторыя не хрэстаматыйная. У школе нас вучылі, што абломаўшчына – гэта дрэнна, што з ёй трэба змагацца і вырываць з сябе з каранямі. Аўтар п'есы драматург Міхаіл Угараў паказвае у сваім творы адваротны бок. Абломаўшчына па Угараву – гэта добра. Не трэба рваць чалавека на часткі, імкнуцца зламаць яго натуру. Чалавек, вырваны са звыклага асяродка, не можа прызвычаіцца да новых жыццёвых умоў і проста памірае, – распавядае рэжысёр-пастаноўшчык.

Сюжэт спектакля такі: дамасед Ілля Абломаў сустракае свайго сябра дзяцінства Андрэя Штольца. Той знаёміць яго са сваёй каханай, пачынаючай артысткай Вольгай Іллінскай. Да чаго гэта прывядзе і чым усё скончыцца, будзе зразумела пасля прагляду спектакля.

У галоўных ролях заняты **Дзяніс Фешчанка**, ён і выконвае ролю Абломава, Штольца сыграе **Аляксей Карпец**, Вольгу Іллінскую іграюць дзве актрысы: **Настасся Макарэвіч** і **Аляксандра Грасевіч.** Гэта гісторыя пра каханне мужчыны і жанчыны. Гісторыя аб марах і надзеях звычайных людзей. Пра намаганні, неабходныя для дасягнення сваёй мэты. Аб сяброўстве і вернасці. Пра ідэалы і магчымасці або немагчымасці ім, гэтым ідэалам, адпавядаць.

– Гэту пастаноўку я задумаў два гады таму. У сілу абставін, якія не залежаць ад мяне, пастаноўка ўсё адкладвалася і адкладвалася. І вось нарэшце ў лютым пачаліся рэпетыцыі. Калі ў тэатры даведаліся пра гэта, была нават нейкая паніка. Гаварылі: нашто Барткевіч узяўся ставіць класіку? Хто яе будзе глядзець?

А вы ўсё ж такі паглядзіце: ці такая гэта класіка і ці засталося ў гэтым спектаклі штосьці ад Ганчарова. Так атрымалася, што спектакль пабачыць свет акурат на мой дзень нараджэння – 5 красавіка, у дзень майго 45-годдзя. І гэта пятая мая рэжысёрская работа ў Мінскім абласным драматычным тэатры. І 15 – у творчай біяграфіі, – прызнаецца Андрыян Барткевіч.

Атрымоўваецца нейкая магія пяцёрак... А якую адзнаку паставіце вы, шаноўныя гледачы, рэжысёру і акцёрам на прэм'ерным паказе спектакля "Аблом OFF" 5 красавіка?

**Наталля ТУР.**



● ДА СУСВЕТНАГА ДНЯ ПАЭЗІІ

# Паэтка са Смаргоні Таня Скарынкіна прэзентуе сваю кнігу ў Мінску

**СМАРГОНЬ. У Сусветны дзень паэзіі, 21 сакавіка, Таня Скарынкіна прэзентуе свой паэтычны зборнік "Кніга для чытання не ў памяшканнях і ў памяшканнях" у кнігарні "логвінаЎ".**

Дэбютны зборнік паэткі выйшаў у серыі "Пункт адліку" Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У прэзентацыі, акрамя самой аўтаркі, возьмуць удзел мінскі паэт **Дзмітры Строцаў**, паэтка і перакладчыца **Юля Цімафеева**.

Аднак у складзе выступоўцаў магчымыя сюрпрызы.

Прэзентацыя кнігі і аўтограф-сесія аўтаркі пачнуцца ў **19.00**.

Адрас кнігарні "логвінаЎ": **Мінск, праспект Незалежнасці, 37-а**.

Таня Скарынкіна – прадстаўніца рускамоўнай паэзіі Беларусі, цяпер жыве ў Партугаліі. Родам са Смаргоні, у розны час працавала паштальёнам, ілюстратарам дзіцячых кніг, журналістам. Спрабавала сябе ў мастацкім перакладзе. Цяпер, акрамя літаратуры, займаецца фотакалажамі – стварае мастацкія кампазіцыі з розных на першы погляд непатрэбных рэчаў і жывёл. Прыкладам, фатаграфуе мёртвых птушак.

Паэзія для Тані – "генератар касмічных галасоў".

Вершы Тані Скарынкінай нагадваюць пра існаванне паэзіі плыні свядомасці, культываванай французскімі сюррэалістамі (Андрэ Брэтон, Гіём Апалінэр) у пачатку мінулага стагоддзя. Яе прываблівае – у вялікай свабодзе фантазіі і самавыяўлення, у тонкіх гульнях розуму, у пошуках сябе. І калі вартасць найноўшай, дый увогуле паэзіі, вызначаецца арыгінальнасцю і ўнікальнасцю, кніга Тані Скарынкінай – адзін з самых яркіх таму прыкладаў.

**Паводле інфармацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ГАННЫ НОВІК

# Не аблашчаная асабістым лёсам

**ВІЛЕЙКА. Беларускай паэтэсе, удзельніцы нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі на Вілейшчыне Ганне Новік, 25 сакавіка споўнілася б 100 год.**

Трапна сказаў **Іван Лашутка** ў прадмове да паэтычнага зборніка **Ганны Новік** "Барвовае лісце": "Не аблашчаная асабістым лёсам, яна заўсёды несла сваю дабрыню і любоў да людзей. І, як родная беларуская песня, паэзія Ганны Новік не згубіць свой след на літаратурнай ніве Бацькаўшчыны".

Цалкам пагаджаюся з гэтымі словамі: "Не аблашчаная асабістым лёсам"... Так жыццё склалася, што яна ўжо з самага ранняга дзяцінства спазнала цяжкую фізічную працу. Яна мне пісала: "Я была мужчынскі кравец. Незакончаны крыху агрaном. Крыху медык, крыху фармацэўт. У 12 гадоў свайго жыцця (з 6-7 год) дапамагала бацьку ў кузні – ён быў каваль. Біла молатам, наразала гайкі, балты, нават рабіла крываватыя ўхналі для таго, каб падкаваць каня. Касіла, арала, гарадзіла платы, валіла дрэвы з пня з бацькам, калі будавалі гэту хату".

А пабудавалі яе ў сярэдзіне 1920-х гадоў. У ёй я час ад часу сядзеў з гаспадыняй і размаўляў на розныя тэмы. Шмат гаварылі пра гады польскай акупацыі, тагачаснае падполле, у якім прымалі ўдзел Ганна Новік і мой бацька, **Флор Манцэвіч**. І тут мы былі аднадумцамі, асабліва пасля таго, як Ганна Аляксееўна даведалася, што я з'яўляюся сынам таго чалавека, які ў Беластоку выступаў з дакладам аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад Беларускай ССР.

– І я ў кастрычніку трыццаць дзявятага года як дэлегат прымала ўдзел у вядомым Народным сходзе, – расказвала яна. – З чатырох дакладчыкаў запомніла толькі двух, якія выступалі па асноўных тэмах, Прытыцкага і вашага бацьку. Добра ён сказаў пра заходнебеларускага таленавітага паэта Міхася Машару, які замест ордэна на грудзях насіў трапалку ад лёну, каб зарабіць сабе на кавалак хлеба і не памерці з голаду.

– Пра вас, Ганна Аляксееўна, – казаў я субяседніцы, – у нашай сям'і ведалі яшчэ да трыццаць дзявятага года, калі Міхась Машара, які сябраваў з маім бацькам, нейкім чынам дастаўляў рукапісы вершаў сваіх, вашых, Міхася Васілька, Піліпа Пестрака. Пра гэта мне маці расказвала.

Напэўна, таму, што мой бацька ўдзельнічаў у заходнебеларускім падполлі, мне і па сённяшні дзень блізкая тэма Заходняй Беларусі. Ганна Аляксееўна раіла мне не пакідаць гэтай тэмы. У пісьме ад 13 студзеня 1969 года (я тады яшчэ працаваў у Вілейскай раённай газеце) яна падбадзёрвала: "Вы ўсё ж малайчына! Хоць работы хапае, але Вы ўзяліся за нашу Заходнюю. Гэта вельмі добра. Магу Вам сёе-тое і падказаць. Калі Вам спатрэбіцца рух Заходняй Беларусі, вось Вам людзі:

Баранцы Асіпаўскага сельсавета – Гарэлік Уладзімір Рыгоравіч, старшыня раённага савета таварыства сляпых;

Цынцавічы – Круцько Аляксандр Ігнатавіч, персанальны пенсіянер.

Больш пакуль не дам. Усё адразу не зробіш.

У мяне было многа выразак з нашых часопісаў таго часу, былі фатаздымкі, але ў зямлі папсаваліся ў вайну".

На жаль, у канцы 1969 года тэма Заходняй Беларусі ў маёй журналісцкай творчасці прыпынілася, паколькі мяне перавялі на работу ў рэдакцыю бярэзінскай раённай газеты "Сцяг Леніна". А гэта – Усходняя Беларусь. Аднак ліставанне з Ганнай Новік не спынілася.

Можа ўзнікнуць пытанне: чаму, жывучы ў адным раёне, мы не маглі часцей сустракацца? Прычына простая. Аўтобусы па раёне, асабліва ў закінутыя вёскі, як Варонічы, хадзілі рэдка, а ў завеі яны туды наогул не даязджалі. Па-другое, як казала мая суразмоўца, у пісьмах лягчэй выкласці сваю душу, і нават так шчыра, што пры вуснай размове таго б не сказаў.

А лёс такі быў у гэтай адзінокай жанчыны. У вайну памерла дачушка, а ў пасляваенны час страціла дарослага сына. Ва ўступным слове да паэтычнага свайго зборніка "Мая Вілейшчына" паэтка піша пра тое, як з-за катаванняў у польскай турме яна ў 1936 годзе стала інвалідам: "Аднойчы мяне павялі на допыт. Следчы ўдарыў мяне з размаху па твары. Я не ўтрымалася на нагах і ўпала скроняй на кант стала. Са скроні пацякла кроў. Допыт быў перапынены. Зрэнка майго правага вока схавалася за пераносся. Я пачала дрэнна бачыць".

Але бадай што самы цяжкі адбітак у яе лёсе пакінула палітычная здрада яе мужа. У пісьме ад 8 лютага 1968 года з просьбай нікому гэта пісьмо не паказваць (пры сустрэчы дадала: "Толькі пасля маёй смерці") яна расказвала.

"...у 1940 годзе мне спадабаўся беглы падпольшчык з вёскі Цынцавічы **Круцько Антон Пятровіч**, які толькі з прыходам Савецкай улады ў 1939 годзе выйшаў з турмы...

...Я лічыла яго такім жа ідэйным, як сама, як мае сябры. Мы сталі мужам і жонкай".

А праз пару месяцаў ад работнікаў "адпаведнай установы" Ганна Новік даведалася наступнае: "...у 1936 годзе майго мужа (тады яшчэ не мужа) і некаторых іншых злавілі польскія паліцэйскія як падпольшчыкаў. Усіх іх асудзілі на 10 год турмы, а яго за "услугу" – на 4 гады".

Потым Антон Круцько, адступаючы на Усход у 1941 годзе, быў закінуты ў тыл ворага, да партызанаў. Тут Ганна Аляксееўна некалькі разоў з ім сустракалася. І ў вайну, і ў пасляваенны час яна "старалася выклікаць мужа на шчырасць, але ён не даваўся гаварыць аб гэтым, і між намі пачала расці сцяна". "...між намі зарадзілася недавер'е". "Канчаткова расталіся ў 1947 годзе".

Яны былі розныя па духу, таму Ганна Новік і пісала мне: "Не разумею, як жыве атэіст з веруючай, баптысткай, як жывуць адной сям'ёй людзі з рознымі светапоглядамі і перакананнямі".

З Ганнай Аляксееўнай проста можна было гаварыць на любыя тэмы. У сваёй вёсцы яна ненавідзела дармаедаў і ўсіх тых, хто стараўся разбурыць калгас. У мяне захавалася пісьмо (яно ў "Куфэрку Віленшчыны" не надрукаванае), у якім Ганна Новік пералічвае, на яе погляд, непажаданых савецкай уладзе людзей, называючы іх абразлівым у той час словам "хунвэйбінамі". У Варонічах быў аптэчны пост, які афіцыйна ўзначальвала і забяспечвала медыкаментамі Ганна Аляксееўна. Іншы раз станавілася фельчаркай, навуку якой спасцігала самастойна. Цікавыя радкі з памянёнага пісьма:

"Хацела яшчэ пагаварыць з Вамі, але ідзе наш шафёр на ўколы. Уводжу яму вітамін і анальгін. А нашых "хунвэйбінаў" раўшыла не ратаваць ні ад якіх захворванняў. Чорт з імі! Не варта".

Аб чым я толькі не даведваўся ад Ганны Аляксееўны! Неяк заехаўшы ў Варонічы на рэдакцыйнай машыне, звярнуў увагу на недапітую бутэльку гарэлкі.

– Госці былі?

– Якія там госці?! Сама пахмялялася.

Мяне такі адказ здзівіў – яна ж непітушчая.

І пачуў у адказ:

– Узялася за прозу. Адзін з герояў майго будучага рамана – п'яніца. Але як апісаць яго самаадчуванне пасля п'янкі? І я пайшла на эксперымент. Дастала бутэльку гарэлкі і ўчора начач добра выпіла. Пасля кожнай чаркі запісвала адчутае. Апошняга кілішка ўжо не помню. Нешта запісвала, але што, назаўтра не расшыфравала. Пасля п'янкі галава разляталася на кавалкі. Пахмялілася. Стала лёгка на душы. Але ж мой герой амаль штодня напіваецца. Мне ж аднаго эксперыменту хапіла.

Рассмяяліся.

Іншы раз здавалася, што Ганна Аляксееўна па вачах і позірку чалавека ўмее "расшыфраваць" яго думкі. Я звярнуў увагу на тое, што яна апранаецца вельмі бедна, хаця магла б і лепшае адзець. Тым больш, што яна – нядрэнная краўчыха. Тады чаму? Я не гадаў, а толькі падумаў. Яна ж сама адказала. Вось вытрымка з пісьма ад 13 студзеня 1968 года:

"Чаму так апранаюся? Прывычка. З дзіцячых год бацька браў мяне ў кузню (не было ў мяне братоў). Спачатку дзьмула мехам, потым дзяржала каню нагу падчас акоўвання, потым узялася за меншы молат, тады за большы. А пасля падполле, начныя паходы, канспірацыя. Арба, касьба, работа ў лесе.

Потым вайна, партызаны. Зноў канспірацыя, я ж ад асобага аддзела. Зноў начныя паходы ў замець, дождж. А потым работа ў МТС з трактарыстамі. І ўсё сярод мужчын адна. Так ужо склалася. А зараз позна адвыкаць.

Ну вось мой вонкавы бок. Цяпер вы не будзеце траціць час на вывучэнне мяне з гэтага боку".

Не песціў лёс народную паэтку Вілейшчыны, але яна не кідалася ў роспач і жыла паўнакроўным жыццём. Іван Лашутка падкрэсліваў, што Ганна Новік "свой жыццёвы досвед і прафесійны талент аддала роднай Беларусі, развіццю яе мовы і літаратуры".

У вершы "Слова да Радзімы" чытаем:

*Беларусь, Беларусь!*
*Паўтараць гэта слова*
*так міла!*
*Як у роднае маці, я вечна ў цябе у даўгу.*
*Шмат табе не сказала*
*і многа яшчэ не зрабіла,*
*Дык прымі, што паспею, як маці, прымі, што змагу.*

**Барыс МАНЦЭВІЧ,**
**член Беларускага Саюза журналістаў з 1958 года.**


фота забяспечана Раісай СОНІЧ.

Ганна Новік. Здымак 50-х гадоў.

## Пройдуць выстава і вечарына ў памяць Ганны Новік

**ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале імя Сілівановіча 25 сакавіка а 16 гадзіне адбудзецца адкрыццё выставы "Старонкі жыцця...".**

Яна прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння паэтэсы і празаіка Ганны Новік, паведаміла навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**.

На выставе прадстаўяць фотаздымкі, дакументы, асабістыя рэчы з фонду краязнаўчага музея, творы Ганны Новік.

У межах выставы пройдзе літаратурная вечарына, прысвечаная гэтай даце.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## КАЛЯНДАР

**23 сакавіка.** Нарадзіўся Стары Улас (сапраўднае прозвішча Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі, 1895 – 1939), беларускі паэт, празаік, збіральнік беларускага фальклору. Нарадзіўся ў Валожыне. Служыў кухарам, аб'ездчыкам, ляснічым. Жыў у вёсцы Варняны (цяпер Астравецкі раён), у Вільні. У 1910 годзе заснаваў школу пісьменнасці, у якой разам са сваімі дочкамі вучыў дзяцей грамаце. Дэбютаваў вершамі ў 1909 годзе ў "Нашай ніве". Аўтар парадыйна-сатырычнага вершаванага апавядання "Тры зладзеі" (1912). Своеасаблівым летапісам працы і побыту сялянства з'яўляецца паэма "Год беларуса". Пахаваны ў Вільні на могілках Росы. На яго магіле паставілі дубовы крыж без надпісу. У Валожыне на доме па вуліцы Савецкай, 49 ёсць мемарыяльная дошка ў гонар самабытнага паэта-земляка Старога Уласа.

***

**1978 год.** Памёр Рыгор Шырма, беларускі харавы дырыжор, грамадскі дзеяч, у часы Заходняй Беларусі – сакратар Таварыства беларускай школы.

***

Сусветны дзень метэаралогіі.

***

**1695 год.** Памерла Людвіка Караліна Радзівіл (1667–1695), асветніца, мецэнатка.

***

**1942 год.** Памёр у перасыльным пункце Аткарск Саратаўскай вобласці Антон Луцкевіч (1884-1942), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, літаратурны крытык, гісторык, лінгвіст, выдавец.

***

**1942 год.** У савецкім канцылярах на лесапавале загінуў (паводле іншай версіі быў расстраляны) Сяргей Ракіта (сапр. Сяргей Законнікаў, 1909 -1942), паэт.

***

**115 гадоў** з дня нараджэння Вольгі Галіны (па мужу – Александроўскай, 1899 – 1980), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі.

***

**24 сакавіка.** 80 гадоў з дня нараджэння Юрыя Ступакова (1934 – 1999), беларускага і рускага акцёра, народнага артыста Беларусі.

***

Сусветны дзень барацьбы з туберкулёзам.

***

**20 гадоў** таму (1994) у Вільні ўсталяваная памятная дошка Кастусю Каліноўскаму.

***

**27 сакавіка.** Сусветны дзень тэатра.

***

**60 гадоў** з часу адпраўкі (1954) першай групы моладзі Беларусі ў Казахстан на асваенне цалінных зямель.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

 



# Кандыдаты ў дэпутаты: ад 26 да 68




**Гадавы даход кандыдатаў у дэпутаты, якія былі пададзеныя на афіцыйных сайтах райвыканкамаў. Лік – у рублях. Дакладныя лічбы можна пабачыць у спісе, размешчаным ніжэй. Найменшы даход у Віталя Зялкоўскага – 10 мільёнаў рублёў. Найбольшы – у Андрэя Душэўскага, больш за 611 мільёнаў рублёў.**

**23 сакавіка пройдуць выбары ў мясцовыя Саветы. Што можна заўважыць, прааналізаваўшы спісы кандыдатаў у дэпутаты?**

У падлік мы ўключылі кандыдатаў з нашага рэгіёна і ў раённыя, і ў абласныя Саветы. Спіс кандыдатаў у раённы Савет мы друкавалі ў папярэднім нумары. Згодна з сайтам Вілейскага райвыканкама, чацвёра кандыдатаў у раённы Савет знялі свае кандыдатуры: **Святлана Валынец, Альбін Сяржант, Валеры Германенка і Сяргей Гарачаў**. Ва ўсіх іх на выбарчых акругах былі альтэрнатывы. Мы аналізавалі спіс кандыдатаў, актуальны на 17 сакавіка.

| Узрост (уключна) | Колькасць |
|---|---|
| Да 30 | 2,80% |
| 30-34 | 7,60% |
| 35-39 | 9% |
| 40-44 | 24% |
| 45-49 | 17% |
| 50-54 | 21% |
| 55-59 | 14,20% |
| Пасля 60 | 4% |

## Больш мужчын

Ва ўладу пераважна ідуць мужчыны. Яны займаюць 67% у спісе нашага рэгіёна. Жанчыны, адпаведна – 33% кандыдатаў у дэпутаты.

## Чвэрці кандыдатаў – ад 40 да 44 год

Самая распаўсюджаная сярод кандыдатаў узроставая група – 40-44 гады ўключна. Такіх кандыдатаў мы налічылі 59. На другім месцы – узрост 50-59 год. Усяго у гэтым прамежку ўзросту 53 кандыдаты. Менш у дэпутаты ідуць людзі пенсійнага ўзросту – дзесяць чалавек. Яшчэ менш – моладзь. У рэгіёне сем кандыдатаў у дэпутаты, якім да 30 год.

Самыя маладыя з кандыдатаў: станочнік "Маладзечнамэблі" **Яўген Каросцік**, Гарадоцкая выбарчая акруга №17, Маладзечна. Яму 26 год. Столькі ж год другому сакратару райкама БРСМ **Кацярыне Роліч**, Школьная выбарчая акруга №5, Мядзел.

Самы сталы кандыдат – 68-гадовы **Міхаіл Грыхуцік**, старшыня Ашмянскага раённага Савета ветэранаў. Ён балатуецца ў Доргішскай выбарчай акрузе №3, Ашмяны.




**Самая пашыраная ўзроставая група – 40-44.**

## Шэсць партый і 92% беспартыйных

Пераважная большасць кандыдатаў – беспартыйныя, 92,2%. Прадстаўнікі Камуністычнай партыі займаюць 4,5%. Трое прадстаўнікоў Ліберальна-дэмакратычнай партыі, а гэта 1,2%. Двое кандыдатаў, ці 0,8% – сябры Аграрнай партыі. Сярод кандыдатаў па адным прадстаўніку Беларускага народнага фронту, Аб'яднанай грамадзянскай партыі і беларускай партыі левых "Справядлівы свет", агулам яны займаюць 1,2%.

По роду дзейнасці мы разбілі кандыдатаў у групы. Большасць кандыдатаў – гэта настаўнікі, кіраўнікі дашкольных, сярэдніх і сярэдніх спецыяльных устаноў.

На жаль, толькі маладзечанскія, вілейскія і мядзельская выбарчыя акругі далі звесткі аб даходзе за 2013 год сваіх кандыдатаў і пра іх маёмасць на афіцыйных сайтах сваіх райвыканкамаў. Параўнанне даходаў некаторых з іх можна ўбачыць на нашай інфаграфіцы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

| Галіна | Працэнт сярод кандыдатаў у дэпутаты нашага рэгіёна |
|---|---|
| Адукацыя | 15,70% |
| Жыллёва-камунальная гаспадарка, паліва, газ, энергетыка, дарожна-будаўнічая | 11,40% |
| Дырэктары прадпрыемстваў, заводаў, філіялаў | 10,60% |
| Сельская гаспадарка | 10,20% |
| Саветы дэпутатаў, сельвыканкамы | 9,30% |
| Начальнікі аддзелаў і іншыя работнікі райвыканкамаў, ідэолагі | 7,70% |
| Дактары, фельчары | 7,70% |
| Міліцыя, МНС, Следчы камітэт, ваенныя | 4,90% |
| Сацыяльная | 3,20% |
| Прадпрымальнікі, дырэктары прыватных фірм | 2,80% |
| Культура | 2% |
| Банкі | 2% |
| Гандаль, спажывецкія таварыствы | 2% |
| Рэдакцыі газет | 2% |
| Лясная гаспадарка | 2% |
| Старшыні прафсаюзаў | 1,20% |
| Рабочыя | 0,80% |
| Спорт і турызм | 0,80% |
| Пошта і сувязь | 0,80% |
| Пенсіянеры | 0,80% |
| Чыгунка | 0,40% |
| БРСМ | 0,40% |
| Часова не працуюць | 0,40% |

# Хто ідзе ў абласныя Саветы

**У мінулым нумары "РГ" друкавала спісы кандыдатаў у дэпутаты раённых Саветаў нашага рэгіёна.**

Сёння мы падаём спісы кандыдатаў у дэпутаты абласных Саветаў дэпутатаў, якія размешчаныя на афіцыйных сайтах райвыканкамаў.

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанская Паўднёва-Заходняя выбарчая акруга №4. Арцём Нікалайчук**, старшыня арганізацыі па вытворчым прынцыпе Маладзечанскіх электрасетак прадпрыемства "Мінскэнерга" раённай арганізацыі "Белая Русь". 31 год, беспартыйны. Гадавы даход за 81 883 400 рублёў. Уласнасць: зямельны ўчастак 0,1192 га, будынак аднакватэрнага дома плошчай 166,8 квадратнага метра.

**Маладзечанская Цэнтральная выбарчая акруга №5. Віталь Зялкоўскі**, часова не працуе. 33 гады, сябра Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Гадавы даход 10 390 805 рублёў. Маёмасці ва ўласнасці няма.

**Міхаіл Клокель**, дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа. 50 год, беспартыйны. Гадавы даход 158 765 444 рублёў. Ва ўласнасці два зямельныя ўчасткі, лецішча, аўтамабіль "Фольксваген-Гольф", чэкі "Маёмасць".

**Маладзечанская Паўднёва-Усходняя выбарчая акруга №6. Іван Лагвіновіч**, станочнік прадпрыемства "Ксвік". 31 год, сябра партыі БНФ. Гадавы даход 79 766 595 рублёў.

**Таццяна Шамодзі**, выконвае абавязкі галоўнага доктара Маладзечанскай ЦРБ, намеснік галоўнага доктара па дзяцінстве і рададапамозе. 45 год, беспартыйная. Гадавы даход 140 150 361 рублёў. Ва ўласнасці кватэра і гараж.

**Маладзечанская Паўночная выбарчая акруга №7. Віктар Малайчук**, начальнік станцыі Маладзечна. 54 гады, беспартыйны. Гадавы даход 193 526 004 рублёў. Ва ўласнасці кватэра, зямельны ўчастак, гараж, аўтамабіль "Рэно-Эспайс".

**Лебедзеўская выбарчая акруга №8. Андрэй Душэўскі**, дырэктар ТАА "Тэхналесзапчастка". 36 год, сябра Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Гадавы даход 611 039 200. Ва ўласнасці дом плошчай 209 квадратаў, зямельны ўчастак, аўтамабілі "Аўдзі-100", БМВ-730Д, долі ва ўстаноўчым фондзе юрасобы "Тэхналесзапчастка" 50%.

**Анатоль Ермаловіч**, дырэктар Маладзечанскага лясгаса. 52 гады, беспартыйны. Гадавы даход 118 291 888, ва ўласнасці кватэра.

**Радашкавіцкая выбарчая акруга №9. Алег Мішчанка**, дырэктар Радашкавіцкага керамічнага завода. 42 гады, беспартыйны. Гадавы даход 324 445 731 рубель. Ва ўласнасці кватэра, зямельны ўчастак, аўтамабіль "Мерседэс-Бэнц Е270", 206 акцый Мінскага завода будаўнічых матэрыялаў.

**ВІЛЕЙКА. Вілейская гарадская выбарчая акруга №3. Ігар Кіцікаў**, дырэктар Вілейскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа. 45 год, беспартыйны. Гадавы даход 121 405 379 рублёў. Ва ўласнасці кватэра, гараж, садовы дом, жылы дом, 2 зямельныя ўчасткі, аўтамабіль.

**Іосіф Мацюн**, пенсіянер. 63 гады, сябра Беларускай партыі левых "Справядлівы свет". Гадавы даход 26 772 890 рублёў. Ва ўласнасці кватэра, гараж, дом, зямельны ўчастак.

**ВІЛЕЙКА. МЯДЗЕЛ. Вілейская сельская выбарчая акруга №2. Віктар Каляда**, дырэктар ААТ "Сцешыцы". 36 год, беспартыйны. Гадавы даход 135 416 986 рублёў. Ва ўласнасці аўтамабіль, палова долі дома.

**МЯДЗЕЛ. Мядзельская выбарчая акруга №1. Анатоль Вайнілка**, дырэктар Мядзельскага прадпрыемства меліярацыйных сістэм. 44 гады, беспартыйны. Гадавы даход 226 353 218 рублёў. Ва ўласнасці аўтамабіль, дом, зямельны ўчастак.

**ВАЛОЖЫН.** Кандыдатамі ў дэпутаты Мінскага абласнога Савета дэпутатаў зарэгістравалі:

**Пяршайская выбарчая акруга №10. Віктар Пяскоў**, дырэктар "Агві-агра". 65 год, сябра Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

**Яўген Скрундзь**, старшыня СВК "Пяршаі-2003". 58 год, беспартыйны.

**Мікалай Хвядчэня**, начальнік ДРБУ №167 філіяла "Мінскаблдарбуд". 52 гады, беспартыйны.

**Валожынская выбарчая акруга №11. Рамуальд Вайніцкі**, дырэктар Валожынскай райаграпрамтэхнікі. 52 гады, беспартыйны.

**СМАРГОНЬ.** У абласны Савет дэпутатаў зарэгістравалі наступных кандыдатаў:

**Смаргонская выбарчая акруга №55. Сяргей Неўмяржыцкі**, начальнік упраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі. 50 год, беспартыйны.

**Сініцкая выбарчая акруга №56. Аляксандр Джумкоў**, дырэктар сярэдняй школы №7 Смаргоні. 47 год, беспартыйны.

**Чапаеўская выбарчая акруга №57. Вольга Лук'яненка**, старшыня СВК "Солы". 50 год, беспартыйная.

**АШМЯНЫ.** Зарэгістравалі наступных кандыдатаў у Гродзенскі абласны Савет.

**Ашмянская выбарчая акруга №48. Міхаіл Гружэўскі**, дырэктар сярэдняй школы №1 Ашмянаў. 59 год, беспартыйны.

**Жупранская выбарчая акруга №49. Аляксандр Кавецкі**, дырэктар Ашмянскага сыраробнага завода філіяла ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат". 39 год, беспартыйны.

**АСТРАВЕЦ.** У Гродзенскі абласны Савет дэпутатаў зарэгістраваны адзін кандыдат:

**Астравецкая выбарчая акруга №47. Барыс Багданец**, генеральны дырэктар "Гроднамеліяводгас". 57 год, беспартыйны.



 

24 САКАВІКА – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ БАРАЦЬБЫ З ТУБЕРКУЛЁЗАМ

# Што там, за высокім плотам

## Наш карэспандэнт змагла пабываць у супрацьтуберкулёзным дыспансеры

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі б дарослыя рабілі пробу Манту, то амаль у кожнага яна была б станоўчая. У Беларусі вельмі высокі паказчык інфекцыявання мікабактэрыяй туберкулёзу, у той час як у многіх іншых краінах знізілі яго да мінімуму.**

Хто аберагае ад найстрашнейшай хваробы і ў чым яе асаблівае каварства?

На гэтыя пытанні адказвае загадчыца Маладзечанскага супрацьтуберкулёзнага дыспансера **Марына Талалуева**.



Валянціна Камінская і Таццяна Лабанава больш за 40 год прысвяцілі барацьбе з туберкулёзам.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

### Мікабактэрыя – паўсюль

**– Ці можна захварэць, праходзячы каля дыспансера?**

– Гэта немагчыма. Каб заразіцца, неабходна дастаткова доўга быць з хворым у закрытым месцы – аўтобусе, краме. Але нават у такім выпадку адразу захварэць нельга. Напрыклад, быў чалавек у блізкім кантакце з хворым на туберкулёз. Мікабактэрыя туберкулёзу вельмі распаўсюджаная. Яна ў пыле, у кнігах, падхапіць лёгка.

Інфецыяванасць мікабактэрыяй у Беларусі вельмі высокая – каля 90% сярод дарослых. Калі рабіць пробу Манту, то амаль у кожнага будзе станоўчая. Іншая справа – як імунітэт змагаецца з мікабактэрыяй. Пройдзе не менш за два гады, як праявіцца захворванне. Але мала адной мікабактэрыі. Імунітэт з ёй змагаецца, а вось калі ён аслаблены, то можа развіцца туберкулёз.

Дагэтуль туберкулёз лічаць сацыяльнай хваробай. Калі ацаніць кантынгент нашых пацыентаў, то пераважная большасць з іх – гэта алкаголікі, бамжы, тыя, хто сядзеў у турме. Сярод пацыентаў каля 80% – мужчыны, але жанчын становіцца ўсё больш. Вы паглядзіце: яны ўсе тут ходзяць і кураць!

### Хто і ад чаго лечыцца

– У нас звычайная туберкулёзная бальніца. Ні ў якім выпадку гэта не турма. Але сярод нашых пацыентаў ёсць тыя, хто прыгавораны рашэннем суда да прымусовага лячэння. Па нейкіх прычынах гэтыя хворыя лячыцца не хацелі. Тут лечаць пацыентаў з усёй Мінскай вобласці. Хворых не на звычайны туберкулёз, а з лекава ўстойлівай формай (МЛУ). Такое лячэнне доўгае і вельмі дарагое.

Дзяржаве складана забяспечыць бесперабойнае забеспячэнне лекамі. Беларусь ад 2008 года супрацоўнічае з Праграмай развіцця ААН (ПРААН), якая значна дапамагае.

**Мікабактэрыя туберкулёзу ёсць амаль у кожным беларусе**

Колькасць хворых з МЛУ узрасла па ўсім свеце. На гэта ёсць шмат прычын: і няправільнае лячэнне, і недахоп лекаў, і людзі не хацелі лячыцца. У нашым рэгіёне іх агульная колькасць дасягнула амаль 60%.

У ЗША, напрыклад, інфекцыяванне мікабактэрыяй туберкулёзу вельмі нізкае, нават сярод дарослых. Там супрацьтуберкулёзная дапамога была зусім па-іншаму арганізаваная, таму і дамагліся такіх паказчыкаў. У нас жа доўгі час лячылі тым, што было, а не чым трэба. ПРААН дапамагло з арганізацыяй барацьбы. Цяпер мы змагаемся з туберкулёзам толькі дакладнымі схемамі лячэння. Каб лячыць правільна, выпадак кожнага пацыента разглядае кансіліум на абласным, рэспубліканскім узроўнях.

**Дыспансер разлічаны на 260 пацыентаў. Цяпер на лячэнні – 180 хворых.**

### Для чаго агароджа

– Сярод іншых ёсць пацыенты са складанай формай, якія доўга лечацца. З імі было вельмі складана. Хворыя маглі сабрацца і пайсці з бальніцы. Яны ездзілі ў аўтобусах, выязджалі ў горад, збіралі грыбы і ягады, прадавалі іх, хадзілі па лецішчах, па найбліжэйшым пасёлку Сасновы Бор.

Будаўніцтва агароджы вельмі наспела для дыспансера. Старшыня райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** толькі прыйшоў на пасаду, і ў гэтую праблему адразу ўнік. У вобласці яе зразумелі. Летась нам выдзелілі тры мільярды рублёў. У першую чаргу – для будаўніцтва добрай агароджы. Мы пускаем пацыентаў на прагулкі, нават на некаторы час адпускаем дадому, але толькі тых, хто падлячыўся і не можа заразіць іншых.

Ёсць у нас і асабліва небяспечныя пацыенты, якія могуць лёгка заразіць іншых. З гэтай сумы грошай мы змаглі арганізаваць на пятым паверсе ізалятар. Ён разлічаны на 30 пацыентаў. Пасля адпаведнага курсу лячэння іх потым пераводзяць у іншыя аддзяленні, дзе і далечваюць.

Для персаналу, які працуе ў ізалятары, арганізавалі чыстую зону. Памянялі ўсе вокны на шклопакеты. Але зрабілі далёка не ўсё.

Ад нашага дыспансера добрае ўражанне – падтрымліваем чысціню, у вольны час хворыя займаюцца спортам, сабралі добрыя бібліятэкі. У нас вельмі добрае абсталяванне, выдатны персанал. Установа – адна з лепшых у вобласці.

**Па апошніх дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, курэнне – адзін з асноўных фактараў развіцця туберкулёзу.**

### Туберкулёз+ВІЧ

– З'явілася такая праблема: чалавек, хворы на туберкулёз, мае ВІЧ-інфекцыю. Раней такога не было.

Туберкулёз – вельмі сур'ёзная хвароба. І лечыцца ён тым прасцей, чым хутчэй выявіць. Некаторыя перасцерагаюцца лішні раз праходзіць флюараграфію. На сучасных рэнтгенапаратах, напрыклад, "Пульмэкспрэс", людзі атрымліваюць невялікае апраменьванне. Натуральны радыяцыйны фон вышэйшы, чым апраменьванне ад флюараграфіі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка РГ.** Множная лекавая ўстойлівасць – форма хваробы на туберкулёз. Яна ўзнікла з-за таго, што хворыя не далечваліся, і мікабактэрыя мела магчымасць мутаваць і сфарміраваць устойлівасць да лекаў. Таму стварылі новае пакаленне лекаў, яшчэ мацнейшых, якія дапамагаюць змагацца з гэтай формай.

КУЛЬТУРА

# Упершыню ў "Надзеі" прайшоў конкурс беларускай песні

**ВІЛЕЙКА. Конкурс беларускай песні "Зорачкі "Надзеі" адбыўся 15 сакавіка. Прымаў яго дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр "Надзея" на Вілейшчыне.**

Праходзіў конкурс упершыню. Прымеркавалі яго да 20-годдзя з дня адкрыцця гэтай установы.

У конкурсе прымалі ўдзел дзеці з Валожынскага раёна і Гомельскай вобласці, якія адпачываюць у цэнтры. А яшчэ – навучэнцы з Вілейскага раёна.

– Выконвалі яны песні як народныя, напрыклад, з "Гукання вясны", так і сучасныя. І ўсе, вядома, на беларускай мове. Сярод іх былі песні, аўтары якіх – з Вілейшчыны, – распавяла вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю "Надзеі" **Таццяна Майсак**. – Прыемна тое, што нароўні з калектывамі і выканаўцамі, якія ўжо дабіваліся поспехаў у розных конкурсах, удзельнічалі дзеці, для якіх падобнае мерапрыемства было ўпершыню.

А перад пачаткам конкурсу перад удзельнікамі і гледачамі выступілі навучэнцы Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага.

### Хто ж перамог?

Выступленні ўдзельнікаў ацэньвала аўтарытэтнае журы.

Лаўрэатамі конкурсу беларускай песні "Зорачкі "Надзеі" сталі:

у намінацыі "Вакал. Сола" – **Вікторыя Саванец** з вілейскай гімназіі №1 "Логас" (узроставая катэгорыя 6-9 год), **Віталь Рогач** з Вілейскай школы мастацтваў (10-13 год). А сярод выканаўцаў 14-17 год – **Ангеліна Таўстыка** (СШ №5 Вілейкі); у намінацыі "Дуэт. Вакальная група" лаўрэата не вызначылі.

Дыплом першай ступені заваявала ўзорная эстрадная студыя "Экспромт" Вілейскай школы мастацтваў. Дыплом другой ступені – у народнага аматарскага калектыву эстраднай студыі аўтарскай песні "Імпэт" Ільянскай СШ імя Адама Грымаця. Дуэт **Алены Анціпавай** і **Валерыі Паўлоўскай** з Чурлёнскага сада-школы атрымаў Дыплом трэцяй ступені.

– Пераможцам уручылі адпаведныя Дыпломы і памятныя сувеніры ад спонсараў конкурсу, – паведаміла **Таццяна Майсак**. – Імі сталі філіял Вілейскага хлебазавода, вілейскі філіял Маладзечанскага малочнага камбіната, воінская часць №52242 (вёска Краснае Маладзечанскага раёна), сетка супермаркетаў для дзяцей "Буслік", грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!", турыстычная кампанія "Солвекс", выдавецтва "Рыфтур".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Таццянай МАЙСАК.

Выступае лаўрэат конкурсу Вікторыя Саванец з вілейскай гімназіі №1 "Логас".

ФУТБОЛ

# Аляксандр Кушнер: **“Ад дзяцей перамог патрабаваць нельга”**

**АШМЯНЫ. Год таму ў Ашмянах адкрылася першая прыватная футбольная школа. Яе заснавальнікам выступіў Аляксандр Кушнер.**

Што змянілася за год? Ці ёсць вынікі і перспектывы? Адказвае заснавальнік школы і галоўны трэнер.

**– Як сёння працуе і развіваецца школа?**

– Школа працуе стабільна. У маі будзе паўтара года, як яна пачала сваю працу. Развіццё ідзе ў адпаведнасці з першапачатковымі планамі. Мы вучым дзяцей футболу з акцэнтам на еўрапейскую сістэму падрыхтоўкі дзіцячых камандаў.

**– Колькі дзяцей, якога ўзросту займаюцца цяпер у школе?**

– Рэгулярна наведваюць футбольную школу 70 дзяцей. Ім ад 8 да 13 гадоў. Зусім нядаўна нашы шэрагі папоўніліся і дзецьмі, якім споўнілася 7 год, – у якасці выключэння. Дабор дзяцей праходзіць увесь год, таму кожны з бацькоў можа аддаць сваё дзіця да нас у футбольную школу ў любы зручны для іх сям'і час.

**– Колькі трэнераў сёння працуе ў школе?**

– Як і на самым пачатку нашай дзейнасці, трэнер адзін, ён жа заснавальнік футбольнай школы, гэта я. Але я актыўна разглядаю варыянт пашырэння трэнерскага штаба, у першую чаргу, для больш эфектыўнага правядзення трэніровачнага працэсу.

**– Ці ёсць пэўныя вынікі: удзел у спаборніцтвах, перамогі?**

– Так, футбольная школа “Нёман” з Ашмянаў удзельнічала ў двух турнірах па міні-футболе, а таксама ў шэрагу таварыскіх гульняў. Перамог пакуль не было. Але мы не ставім сабе за мэту перамогу любой цаной. Мая мэта як трэнера і заснавальніка – падрыхтаваць дзяцей да дарослага футбола, каб яны менавіта ў прафесійных футбольных камандах дэманстравалі сваю падрыхтаванасць і імкнуліся да перамог.

Як паказвае досвед, патрабаванне перамог у дзіцячым футболе прыводзіць да таго, што на выпуску з футбольнай школы яе маладыя выхаванцы не маюць ужо жадання, здароўя і імпэту да футбола, бо ўся іх энергія сышла ў дзіцячыя гады. Таму мы ўжо даўно забыліся, які ён смак перамог Нацыянальнай зборнай Беларусі і беларускіх клубаў у Еўрапейскіх футбольных турнірах.

**– Ці супрацоўнічаеце з якім футбольным клубам?**

– Мы маем падпісанае пагадненне з ФК “Нёман” Гродна. Дзякуючы гэтаму дакументу выхаванцы каманды “Нёман” з Ашмянаў, якія дэманструюць добрыя спартыўныя вынікі, будуць мець магчымасць патрапіць у школу алімпійскай падрыхтоўкі ФК “Нёман” Гродна. Наступнай прыступкай пасля школы алімпійскай падрыхтоўкі будзе перспектыва падпісання прафесійнага кантракта і магчымасць папоўніць шэрагі клуба вышэйшай лігі першынства Беларусі – ФК “Нёман” Гродна.

**– Якія перспектывы ўвогуле для спартсменаў у Ашмянах? Ці футбол – гэта толькі хобі?**

– Перспектывы для спартсменаў і футбалістаў, у прыватнасці ў Ашмянах, даволі неблагія. Поспех залежыць, як вядома, ад шматлікіх фактараў: спартыўная база, фінансаванне, прафесіяналізм трэнераў і мэтанакіраванасць вучняў. Калі ўсе гэтыя моманты ўлічаныя і дзеяздольныя, то будзе і спартыўны вынік. Я мяркую, што для большасці хлопцаў, якія наведваюць нашу футбольную школу, футбол з'яўляецца не проста хобі. Пры далейшым прафесійным падыходзе з іх боку да трэніровачнага працэсу, хлопцы абавязкова дасягнуць мэты.

**– З якімі цяжкасцямі сутыкаецеся?**

– Вялікіх цяжкасцяў мы пакуль не сустракалі на сваім шляху. Усе, з кім так ці інакш мы кантактуем па нашых футбольных пытаннях у Ашмянах, ставіцца да нас з паразуменнем і заўсёды гатовыя дапамагчы ў вырашэнні арганізацыйных і іншых пытанняў. Але ў асноўным мы спадзяёмся толькі на саміх сябе і свае сілы.

Асобна жадаю адзначыць бацькоў нашых выхаванцаў, з якімі ў нас скλаліся добрыя адносіны.

Адзінае пытанне, якое нас цяпер турбуе, у святле пашырэння, – фінансаванне. Школа працуе выключна з тых фінансавых сродкаў, што бацькі аплачваюць за трэніроўкі, а таксама з невялікай фінансавай падтрымкі, якую нам аказвае транспартна-лагістычная кампанія “Фабеас” і ФК “Нёман” Гродна. Вядома, гэтых сродкаў недастаткова. Таму футбольная школа шукае варыянты палепшыць свой фінансавы стан.

**– Што цікавага адбываецца на трэніроўках?**

– 15 сакавіка наша каманда ў поўным складзе наведала фінал Суперкубка Беларусі. У хлопцаў была магчымасць адчуць атмасферу прафесійнага футбола, пабачыць гульню, прааналізаваць яе, гэта вельмі карысны момант у іх футбольным жыцці.

Магчыма, мы будзем у бліжэйшай будучыні шукаць арыгінальныя падыходы да больш шырокага знаёмства нашых юных футбалістаў з дарослым футболам.

На трэніроўках усё цікава. Кожны занятак прыносіць шмат карысці мне як трэнеру, а хлопцам – як гульцам.

**Наталля ТУР.**


Фота Наталлі ТУР.

**Выхаванцы Ашмянскай футбольнай школы на Суперкубку Беларусі сярод гледачоў. Пакуль…**

# Бамбардзір Алег Губіч: **“Б'ю і буду біць па варотах”**

**ВІЛЕЙКА. Знаёмцеся, адзін з лепшых бамбардзіраў вілейскага футбола Алег Губіч. За час правядзення традыцыйнага турніру па міні-футболе ў зале, які прайшоў у 20-ы раз, ён забіў 807 галоў.**

Параўнайце: у бліжэйшага праследавацеля – амаль удвая менш.

**– За колькі сезонаў удалося столькі галоў забіць?**

– За 15. Пяць сезонаў прапускаў, бо ў Ірландыі працаваў. Першыя дзесяць турніраў гуляў за “Прадпрымальнік”. Потым у асноўным за “Буддэталі”. У некаторыя сезоны і па 90 галоў забіваў.

**– Як так удаецца?**

– Ёсць цяга бамбардзірская. Б'ю і буду біць па варотах.

**– Пра вас пачуў такі водгук: “Ён нават калі з дзецьмі гуляе, то імкнецца гол забіць”.**

– Характар такі. Лічу, што ў футбол трэба гуляць, каб галы забіваць, а не проста мяч ганяць папярок поля. Так што, калі ёсць магчымасць, б'ю па варотах.


**Лепшы вілейскі бамбардзір Алег Губіч.**

**– Якія якасці патрэбныя для бамбардзіра?**

– Не баяцца браць гульню на сябе. І быць упэўненым у сабе, што калі б'еш, значыць, заб'еш.

**– А іншыя гульцы могуць пакрыўдзіцца, што пас не аддалі...**

– Што ж, калі заб'ю – не вінаваты. А калі не заб'ю, то тады ўжо тлумач, чаму пас не аддаў.

**– Футболам калі захапіліся?**

– З шасці год у Вілейцы жыву, з шасці год і гуляю. Тады ўсе хлопцы з раніцы да вечара ў двары гулялі. Калі было 15 год, мы з хлопцамі самі, без трэнера, арганізавалі каманду. Скінуліся, купілі форму, мяч – і праз год сталі трэцімі ў рэспубліцы на турніры “Скураны мяч”.

**– Якіх найбольшых поспехаў дасягалі разам з вілейскімі футбалістамі?**

– Вілейская каманда выйграла Кубак вобласці ў 1992 годзе, два разы была другой у чэмпіянаце вобласці 1992, 1993 гадах. Здаецца, у 1998 годзе мы занялі другое месца ў Кубку вобласці па міні-футболе. Гады чатыры таму выйгралі чэмпіянат Беларусі сярод ветэранаў па міні-футболе.

**– А вашы асабістыя дасягненні?**

– Быў лепшым бамбардзірам у чэмпіянаце вобласці ў 1994 годзе. Тады больш за два галы выходзіла ў сярэднім за гульню, нават удавалася ў двух матчах па шэсць галоў забіць.

**– Самы запамінальны для вас гол?**

– Пэўна, у фінале Кубка вобласці ў 1992 годзе. Удалося з лініі штрафной злёту пацэліць у “дзявятку”. Лік стаў 2:1, мы забілі яшчэ некалькі галоў і перамаглі.

**– Вы ўзгадалі, што ў Ірландыі працавалі. А там у футбол гулялі?**

– Так, у першынстве графства за мясцовую каманду. Але іх футбол мне не спадабаўся. Толькі “бібяжы”, падача і барацьба.

**– Гады ідуць, а вы футбол не кідаеце...**

– Я трэнерам па лёгкай атлетыцы працую ў Мінскай абласной комплекснай СДЮШАР, што і ў Вілейцы дзейнічае. Таму з дзецьмі ўвесь час рухаюся – мне не цяжка, падабаецца. У нас, ветэранаў футбола, гэта ўжо назаўсёды. У Вілейцы кожную нядзелю ў дзевяць раніцы на стадыёне каледжа ў любое надвор'е, што б ні было, збіраюцца людзі – у футбол гуляюць. І ў асноўным ветэраны: хто хадзіў 30 год таму туды, той так і ходзіць.

Завяршаць з футболам не збіраюся. Ёсць да чаго імкнуцца: забіць бы ў традыцыйным турніры па міні-футболе 1000 галоў. А яшчэ хочацца з сынамі пагуляць у адной камандзе – аднаму зараз чатыры, другому 12 год.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



НАВІНЫ

## Перамаглі ў чэмпіянаце раёна па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ.** Напрыканцы мінулага тыдня стаў вядомы пераможца чэмпіянату раёна па міні-футболе.

У матчах 11 сакавіка каманда Мядзела разгуляла індывідуальных прадпрымальнікаў 10:0, гульцы цэнтра “Зубраня” абыгралі прадстаўнікоў РАУС з лікам 7:4, камандзе Крывіцкага савета залічанае тэхнічнае паражэнне з лікам 0:5 у матчы з аддзелам адукацыі, спорту і турызму.

У суботу, 15 сакавіка, адбыліся чатыры матчы. Каманда Нарацкага савета прайграла з лікам 2:6 гульцам з аддзела адукацыі, спорту і турызму. Футбалісты з “Зубраня” абыгралі каманду прадпрыемства меліярацыйных сістэм 4:2. Каманда Мядзела не пакінула шанцаў райваенкамату 12:2, прадстаўнікі СДЮШАР абыгралі “Юніёр” 6:5, паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**.

Хоць яшчэ не ўсе матчы згуляныя і завяршыць чэмпіянат плануецца 22 сакавіка, пераможца – вядомы. Гэта каманда Мядзела. Яна згуляла ўсе свае матчы, і дагнаць яе ўжо ніхто не здолее.

## Найлепшыя валейбалісты – гімназісты

**ВІЛЕЙКА.** Ад 10 па 15 сакавіка праходзілі раённыя спаборніцтвы па валейболе сярод вучняў.

Паміж гарадскіх устаноў адукацыі ў юнакоў першае месца заняла каманда вілейскай гімназіі №1 “Логас”, у дзяўчат – гімназіі №2.

Сярод вясковых установу адукацыі мацнейшымі былі юнакі з Людвінoўскай сярэдняй школы і дзяўчаты з Мацкаўскага сада-школы. Пра гэта расказаў галоўны суддзя спаборніцтваў **Юры Кузьміч**.

## Сталі трэцімі

**МАЛАДЗЕЧНА.** У Барысаве 15-16 сакавіка адбыліся фінальныя гульні чэмпіянату Мінскай вобласці па міні-футболе. Наш рэгіён прадстаўляла каманда Маладзечанскага раёна, якая за месяц да гэтага перамагла ў занальным этапе.

У фінале за перамогу змагаліся пяць камандаў. Маладзечанцы атрымалі адну перамогу, дзве гульні звялі ўнічыю (у тым ліку, з пераможцай турніру – камандай з Барысава). Яшчэ адну гульню прайгралі. У выніку з пяццю ачкамі занялі трэцяе месца.

**Алесь Высоцкі.**

● КОНКУРСЫ

# У Сасновым Бары кароль шукаў таленты

**МАЛАДЗЕЧНА. У сакавіку адбудзецца раённы конкурс дзіцячай творчасці "Зорны сезон".**

Падрыхтоўку да конкурсу загадзя пачалі ў пасёлку Сасновы Бор, што паблізу Маладзечна, дзе правялі акцыю "Алё, мы шукаем таленты!"

Конкурс адбыўся ў пачатку вясны, таму прысвяцілі яго, канешне ж, мамам. Усім удзельнікам, акрамя конкурснай праграмы, арганізатары свята прапанавалі вандроўку ў дзіцячы свет сваіх матуль.

Вандроўка пачалася з завочнага падарожжа па старонках сямейнага альбома. Дзеці разам з мамамі загадзя падрыхтавалі фотавыставу, а на свяце ўсім прысутным хлопчыкі і дзяўчынкі расказалі і паказалі, якімі былі іх мамы ў дзяцінстве, у які момант быў зроблены той ці іншы здымак.

Мамы ўдзельнікаў конкурсу расказалі пра тое, якія цукеркі былі самыя любімыя ў іх дзяцінстве, чым захапляліся ў той час, якія песні слухалі.

**Алена Гамолка**, мама ўдзельнікаў конкурсу **Насці і Вані Гамолкаў**, таксама па-за конкурсам выканала песню пра маму.

– Таму што ўсім нам трэба мама, і не важна, колькі нам гадоў, – перад сваім выступленнем сказала Алена Гамолка.

Конкурсная праграма была прадстаўлена як тэатралізаванае дзейства, у якім кароль казачнага каралеўства шукаў таленты. І, як бывае ў любой казцы, канешне ж, іх знайшоў.

– Конкурс талентаў цэнтр дзіцячай творчасці "Маладзік" ладзіць не ўпершыню. Але кожны год за ім сачыць цікава, таму што ўдзельнікі і нумары заўсёды розныя. Вельмі радуе, што дзеткі не толькі спяваюць і танцуюць, але і іграюць на музычных інструментах, спрабуюць свае сілы і ў эстрадным майстэрстве, такім, як клаўнада. Сёлета ў конкурсе ад нашага філіялу "Сонечны" будуць удзельнічаць **Уладзіслаў Шэўчык, Аляксей Рамановіч, Дар'я Марыганава, Юлія Пятрова, Марыя Міхалёнак, Ірына Чалава.** Магчыма, сярод гэтых дзетак і ёсць будучы пераможца раённага конкурсу, – распавяла "Рэгіянальнай газеце" педагог-арганізатар **Галіна Іванькіна.**

**Наталля ТУР.**


Фота забяспечана Галінай ІВАНЬКІНАЙ

**Кароль, Уладзіслаў Шэўчык, і яго саветнік, Аляксей Рамановіч, шукалі таленты ў казачным каралеўстве.**

● ГАРАСКОП

**(21-27 САКАВІКА)**

**Авен.** Перыяд паспрыяе пашырэнню вашага далягляду, могуць прыйсці такія цікавыя ідэі, што захопяць вас з галавой.

**Цялец.** Пагладзіце на навакольны свет з аптымізмам, да любой справы падыходзьце творча. Энергетычны рэсурс расходуйце дастаткова рацыянальна, не будзьце падобныя да яркай успышкі.

**Блізняты.** Зоркі раяць не траціць нервовыя клеткі дарма і галоўнае – не спрабаваць вырашаць праблемы радыкальна. Памятайце, што лепшы сродак ад галаўнога болю – гэта не гільяціна, а таблетка.

**Рак.** Гэта перыяд моцных эмоцый, адчуванняў, таму ўціхамірвайце пачуцці. Атрымлівайце асалоду ад вясны, ад абуджэння прыроды.

**Леў.** Вам так захочацца камфорту, раскошы і задавальненняў. Сапраўды каралеўскі месяц, калі можна наладжваць урачыстасці і проста адпачываць з шыкам.

**Дзева.** Вельмі высокія прафесійныя нагрузкі, з-за гэтага застаецца мала часу на адпачынак, адсюль і пагаршэнне самаадчування. Збаўце тэмпы!

**Шалі.** Гэтыя дні, можа, і не такія ўдачныя, але ўсё ў вашых руках. І калі вам будзе здавацца, што вас ніхто не цэніць, то вазьміце сябе ў рукі і дзейнічайце, як лічыце патрэбным.

**Скарпіён.** Вам пашанцуе апынуцца ў патрэбны час і ў патрэбным месцы і сустрэць цікавых людзей. Прызначаныя сустрэчы і перагаворы пройдуць паспяхова дзякуючы вашай настойлівасці і ўменню знаходзіць агульную мову з людзьмі.

**Стралец.** Вы паклапоціцеся аб тым, каб палепшыць жыццё сваіх блізкіх, зоймецеся вырашэннем бытавых пытанняў. Магчымы рамонт, набыццё рэчаў, якія ўпрыгожваюць быт.

**Казярог.** Майце на ўвазе: ні ў якім разе нельга лячыць дэпрэсію паходамі па магазінах. Бо гэта не лепшым чынам адаб'ецца на фінансавым стане, ды ў такім настроі вы наўрад ці выбераце штосьці вартае.

**Вадалей.** Вам неабходны "зыход у сябе", каб узнавіць сілы і папоўніць запасы энергіі.

**Рыбы.** Вам падвернецца цудоўны момант, каб даказаць сабе і навакольным, чаго вы вартыя!

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

● РЭПЕРТУАР

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў**" (казка-страшылка), Сяргей Бялоў
28 сакавіка – у 10:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Карона з кахання**" (лірычная драма ў 2-х дзеях, прысвечаная жыццю і творчасці Янкі Купалы), Анатоль Дзялендзік
21 сакавіка – у 19:00

"**№13**" (камедыя ў 2-х дзеях), Рэй Куні
25 сакавіка – у 19:00

**МІЖНАРОДНАМУ ДНЮ ТЭАТРА ПРЫСВЯЧАЕЦЦА:**

"**Тэатр – чароўны свет**" (святочны вечар)
27 сакавіка – у 18:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Не такі, як усе**" (камедыя ў 2-х дзеях), Аляксей Слапоўскі
28 сакавіка – у 19:00

*Тэатр мае права на замену спектакляў.*

Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,
тэл: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

Крымінальны экшн "**Need for Speed: Прага хуткасці**", 3D (ЗША, 2014, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
21-24 сакавіка – у 21:00
25 сакавіка – у 18:30
26 сакавіка – у 21:00
27 сакавіка – у 18:30
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Прыгоды Пібадзі і Шэрмана**", 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
22 сакавіка – у 12:00
23 сакавіка – у 14:30
24 сакавіка – у 14:00
25 сакавіка – у 16:30
26, 27 сакавіка – у 14:00
Кошт білета – 20 000-30 000 рублёў.

Фэнтэзі, камедыя "**Кіндар-Вілейскі прывід**" (Беларусь, 2014)
25 сакавіка – у 14:30

Фэнтэзі "**Вій**", 3D (Расія, Украіна, Германія, Вялікабрытанія, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
21 сакавіка – у 18:30
22 сакавіка – у 19:00
23 сакавіка – у 18:30
27 сакавіка – у 16:00
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Фэнтэзі "**Каханне скрозь час**" (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
26 сакавіка – у 18:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Фантастычная камедыя "**Лёгкі на паміне**" (Расія, 2014, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
21 сакавіка – у 16:30
23 сакавіка – у 16:30
24 сакавіка – у 19:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Біяграфічная гісторыя "**Выратаваць містара Бэнкса**" (ЗША, Вялікабрытанія, Аўстралія, 2013, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
22 сакавіка – у 14:00
23 сакавіка – у 12:00
24 сакавіка – у 16:00
26 сакавіка – у 16:00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Эпічны экшн "**300 спартанцаў: Росквіт імперыі**", 3D (ЗША, 2014, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
22 сакавіка – у 16:30
27 сакавіка – у 21:00
Кошт білета – 55 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама, камедыя "**Добрыя ўчынкі**" (ЗША, 2012, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
21, 22 сакавіка – у 17:30, 19:30
23 сакавіка – у 19:30, 21:30
24 сакавіка – у 21:30
25, 26 сакавіка – у 19:30
27 сакавіка – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама "**Паганіні: Скрыпач Д'ябла**" (Германія, Італія, 2013, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
21, 22 сакавіка – у 21:30
23 сакавіка – у 17:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер "**Небяспечная спакуса**" (Мексіка, 2014, прагляд дазволены гледачам, якім за 18)
25, 26 сакавіка – у 21:30
27 сакавіка – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

**У дні вясновых канікулаў:**

Фэнтэзі, камедыя "**Кіндар-Вілейскі прывід**" (Беларусь, 2014)
26, 27 сакавіка – у 15:30

Анімацыйныя прыгоды "**Джасцін і рыцары доблесці**" (Іспанія, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
22 сакавіка – у 13:30, 15:30
23 сакавіка – у 13:00, 15:00
24 сакавіка – у 15:30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Сарыла: Закінутая зямля**" (Канада, 2013, без узроставых абмежаванняў)
25 сакавіка – у 15:30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 9 | | | | | | 2 | |
| | | 3 | | 8 | | | | |
| 8 | | | 6 | | 9 | | | |
| | | 9 | | | 4 | | 8 | 6 |
| 2 | | 1 | | 5 | | 3 | | 9 |
| 7 | 8 | | 3 | | | 2 | | |
| | | | 2 | | 3 | | | 5 |
| | | | | 6 | | 8 | | |
| | 2 | | | | | | 3 | 4 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



